# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1966

Студзень - Люты

ЗЬМЕСТ:



Год XIV

№ 1 (94)

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1966 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвяртаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIV** **January—February 1966** **№ 1 (94)**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XIV | СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ, 1966 | № 1 (94)

## На шляху да царкоўнай еднасьці

Сярод агульнай радасьці айцоў і ўсіх прысутных у базыліцы сьвятога Пятра, дня 7 сьнежня 1965 г., ў перадапошнім дню II-га Ватыканскага Сабору, была адчытана супольная *дэклярацыя* ПАПЫ ПАЎЛА VI і ПАТРЫЯРХА АТЭНАГАРА I-га.

Каб яе належна зразумець, трэба прыпомніць сумныя падзеі 1054 г. і разрыў між дзьвума хрысьціянскімі Цэрквамі, Каталіцкай і Праваслаўнай, якія былі датуль *адною Царквою.*

Ад часу, калі Канстантын Вялікі, рымскі імпэратар, залажыў сталіцу ўсходняй рымскай імпэрыі ў малаведамым гарадку Бізанціум (горад Канстантына — Канстантынопаль), паўсталі два культурныя, а пазьней і рэлігійныя цэнтры: Рым і Канстантынопаль.

Пакуль Рым бараніўся ад навалы варвараў, што нішчылі старую імпэрыю, якіх вучыў і хрысьціў, тады Канстантынопаль узрастаў у славу.

Паволі але сыстэматычна тварылася новая Эўропа, дзе першую ролю — ня толькі ў жыцьці духоўным, але і палітычным — адыгравалі рымскія біскупы-Папы. Тут аставалася мова і цывілізацыя лацінская, нараджаліся новыя магутныя дзяржавы, новая псыхэ народаў перш няведамых.

У бізантыйскай імпэрыі ўсё было інакш. Яна лічыла сябе насьледніцай ня толькі магутнай рымскай дзяржавы, але таксама спадкаемніцай грэцкай мудрасьці і красы. Грэцкая мова была ўсёўладнай. Па грэцку былі напісаны сьвятыя кнігі Новага Запавету, творы вялікіх Айцоў Усходняй Царквы — сьвятых Апанаса, Кірыла Александрыйскага, Васіля Вялікага, Грыгора з Назіянзу і інш.

Грэкі ня толькі не зналі лацінскай мовы, але ёю пагарджалі.

Усё гэта: палітычныя падзеі, культурныя і абрадавыя розьніцы — зрабілі вялізарны ўплыў і ў галіне царкоўнай, — Рым і К-паль не знаходзілі супольнай мовы. Хаця ў сутнасьці абедзьве Цэрквы і надалей аставаліся глыбока хрысьціянскімі, пачалі адна другой рабіць прыкрыя заўвагі і закіды. У часох Патрыярха Фоцыя дайшло да паважнага разрыву. Калі гэтая рана загаілася, ізноў у XI стагодзьдзі, за Патрыярха Керуларыя, спрэчкі між Рымам і Канстантынопалям да таго распаліліся, што давялі да г. зв. экскамунікі-анафемы. Даканалі гэтага папскія легаты на чале з кардыналам Гумбэртам: яны палажылі буллю экскамунікі на аўтары сьв. Сафіі ў Канстантынопалі, у якой адлучылі ад Царквы Патрыярха і двух яго важнейшых мітрапалітаў з Сыноду. Але ў тым часе, калі гэта сталася, Папа Леў IX, ад імя якога выступалі легаты, ўжо ня жыў.

Як адказ на гэта Патрыярх Керуляры выкляў легата і ягоных памацнікоў.

З гэтага відаць, як абедзьве староны дзеялі нэрвова, неразважна і пасьпешна і — праўдападобна — абедзьве экскамунікі, як уважаюць шматлікія гісторыкі і багасловы, былі некананічныя і неважныя, а кардынал Гумбэрт дзеіў самавольна падчас вакансу на Рымскім Пасадзе.

Заўважым, што ў тых сумнай памяці экскамуніках ня мела мейсца ані адлучэньне *ўсей грэцкай Царквы* з боку папскіх легатаў, ані анатэмы на Папу і на ўсю Рымскую Царкву з боку Патрыярха Керуларыя. Зрэшта, ані ў Рыме, ані ў Канстантынопалі ня думалася, што гэтыя акты стануцца такімі даўгавечнымі — датрываюць да нашых часаў, ледзь ня 1000 гадоў!

Былі робленыя спробы злучэньня Цэркваў, асабліва на Саборы Ліёнскім II-ім і Флёрэнцкім. Дагэтуль, аднак, да больш значных вынікаў не дайшло. Хрыстова Царква аставалася разьдзелянай, а тым самым аслабенай унутры і звонку.

*

Калі ідзе аб Каталіцкую Царкву, асабліва ў апошніх часох, дык тут робіцца ўсё магчымае, каб дайсьці да еднасьці ўсіх хрысьціян, каб споўнілася воля Хрыста, які ў апошнюю хвіліну свайго жыцьця маліў нябеснага Айца, «каб усе былі адно . . .»

Бог у сваей міласэрнасьці ўзбудзіў таксама падобныя думкі і імкненьні ў некаторых дастойных праваслаўных герархах, сярод якіх першае мейсца займае Яго Блажэнства Патрыярх Атэнагор I.

У атмасфэры II-га Ватыканскага Сабору дайшло да памятнага спатканьня Паўла VI і Атэнагара I ў Еразаліме. Там дзе Хрыстос навучаў, дзе памёр і ўваскрос, у Імя Яго спаткаліся і пацалаваліся найвышэйшыя прадстаўнікі Хрыста на зямлі.

Другім актам на шляху аб'еднаньня дзьвюх Цэркваў была супольная дэклярацыя, якой касавалася сумная памяць узаемных адлучэньняў. Вось ейны зьмест:

«Сярод перашкодаў на шляху да братэрскіх адносінаў, даверу і пашаны ўспамінаецца памяткая экскамуніка і сумныя падзеі з 1054 г., якія давялі да адлучэньня Дэлегатамі Рымскага Пасаду — на чале з кардыналам Гумбэртам — Патрыярха Міхала Керуларыя і двух яго памацнікоў з Сыноду: у сваю чаргу тое самае спаткала папскіх легатаў з боку Патрыярха і яго Сыноду.

Бадай што было немагчыма ўнікнуць чагосьці падобнага ў гістарычным пэрыядзе вялікага замяшаньня.

Але сяньня, калі больш пагодна і зраўнаважана прыглядаемся да тых падзеяў, неабходна прызнаць перасол, што ўканцы давяло да вынікаў, якія (паколькі можам судзіць) перавысілі намеры і спадзяваньні самых аўтараў, да якіх вылучна, а не да іхніх Цэркваў, экскамунікі адносіліся. Самыя зрэшта экскамунікі ня мелі на мэце парваць зносінаў між Пасадам Канстанцінопаля і Рыму.

Таму Папа Павал VI і Патрыярх Атэнагор I і яго Сынод, пэўныя, што праз іх вусны выяўляецца агульнае жаданьне справядлівасьці і аднолькавае пачуцьцё любові іхніх вернікаў, і помнячы словы Госпада Ісуса Хрыста (Матвей V, 23-24), згодна заяўляюць наступнае:

а) Яны шкадуюць, што ўжываліся абразьлівыя словы, беспадстаўныя дакоры, правінныя акты з абезьвюх старон, якія здараліся ў тую сумную эпоху.

в) Яны таксама шкадуюць і жадаюць выкараніць з памяці і з царкоўнага асяродздзя акты адлучэньня (анатэмы), якія былі іх вынікам і памяць якіх яшчэ да нашых дзён ёсьць перашкодай да братэрскіх спатканьняў, таму трэба забыцца аб іх.

с) Урэшце яны шкадуюць аб тых неспакойных здарэньнях, што папярэдзілі і аб тых апошніх, на якія дзеілі розныя фактары і сярод іх узаемнае незразуменьне і недавер, а якія нарэшце прывялі да разрыву царкоўнае еднасьці.

Папа Павал VI і Патрыярх Атэнагор I і яго Сынод ёсьць сьведамыя таго, што гэты ўзаемны акт справядлівасьці і прабачэньня ёсьць недастатковым, каб скончыць з розьніцамі даўнейшымі і навейшымі, якія існуюць між Рымскай Царквою і Праваслаўнай і якія — праз дзеючага Сьвятога Духа будуць пераможаныя — праз ачышчэньне сэрцаў, праз жаль выкліканы дзеля гістарычных памылак, як таксама праз гатоўнасьць волі — асягнуць еднасьць апостальскае веры і яе вымогаў . . . »

Як вынікае з прыведзеных слоў супольнае дэклярацыі Папы і Патрыярха, гэтыя два царкоўныя Дастойнікі ня ўважаюць, што само скасаваньне гістарычнае анатэмы хопіць да злучэньня Цэркваў. Гэта ёсьць толькі першы крок у кірунку да вялікае мэты.

Важным ёсьць таксама тое, што абедзьве староны прызнаюцца да зробленых памылак і жадаюць на ўсе мінулыя непаразуменьні кінуць новую «анатэму . . . » забыцца!

Усім каталіцкім і праваслаўным Біскупам, а таксама сьвятаром і вернікам выпадае ісьці ў сьлед сваіх духоўных правадыроў. Шлях пакоры і шчырае любові давядзе ўсё хрысьціянства да еднасьці.

Дай, Божа, каб Беларусы на гэтым новым шляху ня былі апошнімі!

# ПРАМОВА АЙЦА СЬВЯТОГА ПАЎЛА VI-га

**Дарагія Браты!**

**Выбіла гадзіна ад'езду і разлучэньня. За колькі хвілін Вы пакінеце Саборнае Сабраньне, каб выйсьці на спатканьне чалавецтва, каб несьці добрую навіну Эвангельля Хрыста і аднаўленьня Ягонае Царквы, над чым мы сумесна працуем ужо чатыры гады.**

**Гэта ёсьць адзіны свайго роду момант, момант, якога значэньне і багацтва ня маем з чым параўнаць. У гэтым сусьветным сабраньні, ў гэтым прывілейным пункце часу і мейсца, зьбягаецца адначасова мінуўшчына, сучаснасьць і будучыня.**

**Мінуўшчына: бо тут сабралася Хрыстовая Царква із сваей традыцыяй, сваей гісторыяй, із сваімі Саборнымі Дактарамі Царквы, із Сьвятымі . . .**

**Сучаснасьць: Бо мы разыходзімся, каб пайсьці да сучаснага сьвету, сьвету зь ягоным горам, болям і грахамі, але таксама зь яго цудоўнымі посьпехамі, вартасьцямі цноты . . .**

**І будучыня ёсьць тут у магутным закліку народаў да большай справядлівасьці, у іхняй волі міру і жаданьню — сьведамым ці нясьведамым — вышэйшага жыцьця: таго мяноўна жыцьця, якое Хрыстовая Царква можа і жадае даць.**



Нам выдаецца, што мы чуем, як з усіх бакоў сьвету ўзносіцца магутны і зьмяшаны гоман — пытаньне тых усіх, што паглядаюць на Сабор і пытаюцца нас трывожна: Што Вы маеце нам выказаць? Нам, кіраўнікам дзяржаваў, інтэлектуалістам, работнікам, артыстам? Нам жанчынам, нам маладым, нам хворым і бедным?

Гэтыя ўпрашальныя галасы не астануцца без адказу, бо Сабор ужо чатыры гады працуе дзеля ўсіх катэгорыяў людзей. Бо і дзеля іх выпрацаваў «Канстытуцыю аб Царкве ў сучасным сьвеце», якую мы аб'явілі ўчора пад воплескі энтузіязму Вашага Сабраньня.

З нашага доўгага разважаньня аб Хрысьце і Ягонай Царкве, маюць у гэтым мамэнце празьвінець першыя словы, што прыносяць супакой і збаўленьне для незьлічоных грамадаў, якія гэтага чакаюць. Сабор пакуль разьвяжацца, жадае споўніць прарочую функцыю і выразіць у кароткіх пасланьнях і даступнай моваю для ўсіх «Добрую Навіну», якую мае прыгатаваную для сьвету. Дзеля гэтага некаторыя найбольш даверапыя прадстаўнікі выскажуць цяпер ад вашага імя пасланьні да ўсяго чалавецтва.

## ПАСЛАНЬНІ САБОРУ

### Да кіруючых дзяржавамі

У гэтай урачыстай хвіліне мы, Айцы XXI-га Сабору Сусьветнай Каталіцкай Царквы, разыходзячыся пасьля 4-ох гадоў малітвы і працы, сьведамыя нашае адказнасьці перад чалавецтвам, зьвертаемся з пашанаю і даверліва да тых, што трымаюць у сваіх руках лёс людзей на зямлі, да ўсіх што маюць уладу на сьвеце.

Абвяшчаем гэта ўрачыста: маем пашану да вашай улады і вашай зьверхнасьці, паважаем вашыя абавязкі: прызнаём вашыя справядлівыя законы. Шануем тых, якія іх твораць і якія іх выконваюць. Аднак жадаем вам сказаць адно найбольш сьвятое слова, мяноўна: **Андзін Бог**

**ёсьць вялікі. Адзін Бог ёсьць пачаткам і канцом. Адзін-адзіны Бог ёсьць крыніцай вашае ўлады і фундамантам вашых законаў.**

**Вы павінны быць носьбітамі на зямлі парадку і супакою між людзьмі. Але не забывайце: гэта Бог, Бог жывы і праўдзівы, які ёсьць Айцом людзей. І гэта Хрыстос, Ягоны адвечны Сын, які прыйшоў сказаць нам, што мы усе — браты. Гэта Ён — вялікі Творца парадку і супакою на сьвеце. Бо Ён кіруе людзкімі падзеямі і толькі Ён мае моц прыхіліць сэрцы, каб адракліся благога пацягу, што родзіць вайну і няшчасьце.**

**Гэта Ён багаславіць хлеб для чалавецтва, Ён асьвячае ягоную працу і цярпеньне, Ён дарыць чалавецтву радасьць, якой Вы даць ня можаце, Ён узмацняе ў болях, у якіх Вы ня здолееце памагчы.**

**У вашай зямной і дачаснай дзяржаве Бог таямніча будуе свой духоўны і вечны горад, сваю Царкву. Чаго-ж жадае ад Вас гэтая Царква, пасьля блізка 2 тысяч гадоў зьменлівых зносінаў з вамі, магутнымі Валадарамі Сьвету? Чаго сяньня яна жадае ад Вас? — Царква сказала Вам гэта ў адным з найважнейшых дакумантаў Сабору: Царква вымагае ад Вас адно толькі свабоды. Свабоды верыць і абвяшчаць сваю веру, свабоды любіць Бога і служыць Яму, свабоды жыцьця і свабоды несьці людзям жыватворнае пасланьне.**

**Ня бойцеся Царквы: яна ёсьць абразом свайго Вучыцеля, у сваей цудоўнай дзейнасьці не ўваходзіць у вашыя прэрогатывы, але лечыць усё людзкое ад згубных упадкаў, ператварае і напаўняе надзеяй, праўдай і красою.**

**Дазвольце, каб Хрыстос дзеіў у грамадзтве, ачышчаючы яго. Не расьпінайце яго на крыжы ізноў: гэта было-б сьвятатацтвам, Бо Ён ёсьць Сын Божы і было-б гэта самабойствам, бо Ён ёсьць Сынам Чалавечым.**

**А нам, Яго пакорным слугам, пазвольце пашыраць без перашкоды «Добрую Навіну» Эвангэлля супакою, аб чым мы разважалі падчас гэтага Сабору. Вашыя народы першыя з гэтага скарыстаюць, бо Царква творыць для Вас адданых грамадзян, прыяцеляў грамадзкага супакою і поступу.**

**У гэтым урачыстым дню, калі Царква зачыняе паседжаньне XXI Сусьветнага Сабору, праз нашыя вусны ахвярue Вам сваю прыязьнь, свае ўслугі сваю духовую і маральную энэргію. Да Вас усіх зьвяртаецца з пасланьнем збаўленьня і багаславенства. Прыймiце гэтае, як Царква Вам дарue, шчырым і радасным сэрцам і занясіце ўсім вашым народам!**

## Да людзей думкі і веды

**Спэцыяльнае прывітаньне вам, шукаючым праўды, вам, людзям думкі і веды, дасьледчыкам чалавека, сусьвету і гісторыі. Вам усім-пілігрымам да сьвятла, і тым таксама, што затрымаліся ў дарозе змучаныя і зьняверaныя дарэмным шуканьнем.**

**Чаму вітаем вас спэцыяльна? Бо мы ўсе тут, біскупы, Айцы Сабору, мы прыслухоўваемся да праўды. Бо чым-жа было нашае намаганьне падчас гэтых чатырох гадоў, як не больш стараннымі шуканьнем і ўглыбленьнем пасланьня праўды дoверанай Царкве? як не пільнай натугай да больш дасканалага пазнаньня Духа праўды?**

**Дзеля таго мы не маглі не спаткаць вас. Вашая дарога ёсьць нашай. Вашыя сьцежкі ніколі ня бываюць чужымі для нас. Мы-прыяцелі вашага імкненьня шукальнікаў, мы-саюзьнікі твораў, мы зьдзіўлены вашымі здабыткамі, а калі трэба, мы-суцяшаем вас пры заняпадзе духа і ў вашых няўдачах.**

**Дык і для вас мы маем пасланьне. Вось яно: Шукайце вытрывала, бяз неахвоты і не адмаўляйцеся ніколі ад праўды. Успомніце словы аднаго з вашых вялікіх прыяцеляў, Сьвятога Аўгустына: «Шукайма з жаданьнем знайсьці, і знаходзьма з ахвотай шукаць далей». Багаслаўлёныя тыя, што ўладаючы праўдай, шукаюць яе далей, каб яе аднавіць, і каб даваць яе іншым. Шчасьлівыя тыя, што не знайшоўшы яе, імкнуцца да яе шчырым сэрцам: няхай шукаюць заўтрашняга сьвятла із сьвятлом сяньняшнім — аж да паўнаты сьвятла!**

**Але не забывайце: калі разважаньне ёсьць вялікай справай, дык яно найперш ёсьць абавязкам. Гора таму, хто самахоць заплюшчвае вочы на сьвятло! Трэба думаць, бо за гэта адкажам: гора тым, што туманяць розум тысячамі штучак, якія толькі зводзяць, даводзяць да пыхі, ашукваюць і перакыўляюць! Які ёсьць галоўны прынцып для людзей веды, калі ня гэты: здабыць магчымасьць правільна думаць.**

**Дзеля таго ня выбіваючы вас з дарогі, не зацямнюючы вашага погляду, мы ахвяруем вам сьвятло нашае таямнічае лямпы: в е р у. Даверыў нам яе валадар думак, Той, каторага мы — пакорныя вучні. Толькі Ён мог сказаць і сказаў: «Я ёсьць сьвятло сьвету, Я ёсьць дарога, праўда і жыцьцё».**

**Гэтыя словы датычаць вас. Дзякуй Богу, як ніколі дасюль, праяўляецца магчымасьць глыбокай згоды між сапраўднай ведай і праўдзівай верай, якія ўзамемна служаць адзінай праўдзе. Не перашкаджайце гэтаму цэннаму спатканьню! Давярайце веры — гэтай вялікай прыяцельніцы розуму! Асьвячайцеся яе сьвятлом, каб улавіць праўду, поўную праўду! Вось пажаданьне, заахвочаньне і надзея, якую перад сваім разьездам выражаюць вам Айцы сабраныя з усяго сьвету ў Рыме на Саборы.**

# Айцец Леў Гарошка — архімандрыт

**«Нам прыемна паведаміць Вас, Дастойны Ойча, што гэтая сьвятая Кангрэгацыя, бяручы пад увагу Вашу сьвятарскую, поўную ахвярнасьці працу, сяньня надала Вам годнасьць Архімандрыта...»**

Вось галоўны зьмест дакуманту з дня 16 сьнежня 1965 г. падпісанага Яго Эмінэнцыяй Кардыналам Густавам Тэста і Архібіскупам Маріо Бріні, Кіраўнікамі Ўсходняй Рымскай Кангрэгацыі, дасланага на рукі Айца Льва Гарошкі, цяперашняга Супэрыёра Дому Ма-



рыянаў у Лёндане і Рэктара Беларускіх Каталіцкіх Місіяў ў Англіі і Францыі.

Выказваючы тут нашу шчырую радасьць і якнайлепшыя пажаданьні Дастойнаму Архімандрыту, жадаем адначасова пры гэтай нагодзе затрымацца крыху шырэй над яго асобай і дзейнасьцю. Сьведамыя, што яна заслугоўвае на паважнейшую ацэнку яго рознароднай працы, чымся можна гэта зрабіць у адным сьціплым артыкуле.

I

Леў Гарошка прыўшоў на сьвет 26 лютага 1911 г. ў вёсцы Трашчычы, у павеце Стаўпецкім. Быў ахрышчаны ў царкве ў Турцы. Сям'я Харашкоў (гэтак калісьці называліся Гарошкі) афіцыйна была праваслаўнай, хаця жылі ў ёй яшчэ традыцыі вуніі. Асабліва дзед будучага сьвятара быў чалавекам пабожным, сьпяваў вуніяцкія песьні і захоўваў традыцыі «старой» веры.

Не бяз уплыву на душу малога Льва — ды ня толькі яго! — было й тое, што далёкія занёманскія сенакосы яго бацькі стыкаліся з Дзярэчынцамі, якія праславіліся на ўсю Беларусь сваею стойкасьцю ў абароне вуніі перад царскім яе прасьледам.

Іншай характэрнай рысай сям'і Льва была цяга да веды, якую здабывалі рознымі магчымымі спосабамі, а мо' найбольш праз самаадукацыю. Бацька яго Юры перш вучыўся за каваля, наступна, калі пайшоў у маскалі, скончыў там фэльчарскую школу. Гэта дало яму змогу крыху лепш уладзіцца жыцьцёва і шмат памагаць у няшчасьці другім, асабліва ў часы войнаў. Зноў-жа бабка айца Льва зналася на акушэрскіх справах і была зьбіральніцай лекавых зёлак.

У пачатковую школу пайшоў маленькі Леў маючы ўсяго шэсьць гадоў. Была яна ў яго ўласнай вёсцы, а настаўнікам быў сп. Пляскач. Калі гэтую расейскую школу перарабілі ў польскую, тады Леў разам з іншымі хлопцамі пачаў хадзіць у 7-мі клясную расейскую школу ў Ярэмічах.

Кожнага дня трэба было зрабіць малому кволага здароўя хлапчуку па 9 кілямэтраў у школу й назад! Нічога дзіўнога, што і дагэтуль айцец Леў не пазбыўся прывычкі сьпяшацца і хутка хадзіць...

Калі аднак і гэту школу ў Ярэмічах пераманілі на польскую, Леў пакінуў яе і разам з двума іншымі хлапцамі з вёскі пачаў хадзіць у Мір, дзе была такжа польская школа, але да яе было шмат бліжэй ад Трашчычаў.

Скончыўшы памысна сямігодку ў Міры, Гарошка жадаў трапіць у тэхнічную школу ў Вільні, аднак хаця і здаў эгзаміны, яго туды ня прынялі дзеля дрэннага лекарскага пасьведчаньня аб стане здароўя. Сумным быў юнак, калі ізноў мусіў вяртацца дамоў. Не пакінуў аднак думкі, каб вучыцца далей. Наступнага году здае эгзаміны ў Беларускую Навагрудзкую гімназію.

Пэрыяд здабываньня сярэдняй асьветы, хаця паводле сваей натуры ёсьць пераходным, аднак вельмі важным у жыцьці чалавека. У гэтым бо часе ён дасьпявае ня толькі інтэлектуальна, але такжа псыхічна і фізычна.

Айцец Архімандрыт Леў ад маленства пачуваў сябе беларусам. У хаце яго дзеда быў добра ведамы твор «Тарас на Парнасе», а да яго бацькі прыходзілі беларускія газэты зь Вільні, сярод якіх найбольш запамяталася дасьціпная «Маланка».

У беларускай гімназіі, паміма розных цяжкасьцяў і недахопаў, для чулай душы юнака абставіны сьведамай беларускай атмасфэры былі дастаткова спрыяльныя, каб тут залажыць на заўсёды моцныя фундаманты для далейшага зацікаўленьня сваей краінай, ейнай культурай і змаганьнем за гэтыя цэннасьці.

У сваіх успамінах, (якія спадзяёмся хутка будуць надрукаваныя) а. Леў гэтак адзываецца аб Наваградку і беларускай гімназіі:

«Для ўзгадаваўчае працы Наваградак меў шмат выняткова спрыяючых даных. Гэта-ж горад з багатым гістарычным мінулым: гэта першая сталіца Вялікага Літоўскага (у сёньняшнім значэньні Беларускага) Княства. Узгорак Міндоўга, Замкавая Гара з руінамі магутнага замку, Барысаглебская і Фарная цэрквы, недалёкая Літвінка, цікавыя археалягічныя знаходкі падчас розных раскопкаў — усё гэта жывыя сьведкі слаўных старонак беларускае гісторыі, якія кожнаму беларусу наагул, а вучням беларускае гімназіі ў асаблівасьці маглі прамаўляць сваім нямым маўчаньнем больш чым пісаным словам. Гэтыя памяткі былі нязвычайнымі настаўнікамі, ад якіх можна было навучыцца любіць родны край і народ.

«Я вучыўся ў гімназіі якраз тады, калі яна перажывала свой лепшы час. Лік вучняў павялічваўся з году ў год і стары наняты будынак на рагу рынкавае плошчы станавіўся зусім нездавальняючым для яе патрэбаў і дырэкцыя парабіла захады, каб мець уласны адпаведны будынак. На пачатку 1929 г. быў створаны Камітэт Будовы Гмаху Беларускае Бурсы ў Наваградку. Старшынёю яго згадзілася быць страсьціха Т. Грынеўская, а заступнікам старшыні быў адвакат Павал Сьвірыд. Камітэт адразу энэргічна ўзяўся за працу. Настаўнікі і вучні хадзілі па ваколічных вёсках з падпіснымі лістамі. Ня гледзячы на беднасьць сялянства ахвярнасьць была вялікая і ўжо да восені распачалі будову гмаху».

Дырэктарам гімназіі быў сп. Янка Цеханоўскі, ён-жа быў і настаўнікам беларускай літаратуры і францускай мовы. Іншыя настаўнікі былі Аляксандар Данілевіч і А. Мілоў. Ад 1930 г. вучыў біялёгію і прыродазнаўства д-р Аляксандар Орса, а настаўнікам гісторыі быў М. Чатырка. Хорам і аркестраю кіраваў кампазытар Антон Вальнчык. Слабым пунктам нажаль сярод прадметаў была рэлігія, якой вучыў а. Васіль Бабкоўскі, пазьнейшы архібіскуп Бэнэдыкт. Ён ужываў паўсюдна расейскую мову насуперак жаданьня вучняў.

Наваградзкая гімназія была прырода-матэматычнага тыпу, коэдукацыйная. Большая частка вучняў жыла у бурсах. Харчаваліся вельмі бедна. Такжа недахоп кніжак даваўся ў знакі. Гімназіст Гарошка, каб зарабіць хоць крыху грошаў, даваў лекцыі слабейшым вучням з польскай наваградзкай гімназіі.

Да матар'яльных цяжкасьцяў вучняў даходзіла яшчэ іншая: сьляджэньне тайнае і яўнае паліцыі ня толькі за беларускімі дзеячамі і настаўнікамі, але такжа і за вучнямі.

У 1928 г. зарганізаваўся ў гімназіі Вучнёўскі Гурток, які рыхтаваў беларускія прадстаўленьні і часта ладзіў г. зв. суботнікі. Адным з больш дзейных кіраўнікоў такіх суботнікаў і быў сяньняшні Архімандрыт.

У 1931 г. Леў Гарошка разам з 13 сябрамі здаў з вельмі добрым вынікам — як першы сярод вучняў — матуральны эгзамін. Было тады яму роўна 20 гадоў. І вось трэба было адказаць на сутнае пытаньне: што далей?

## II

«Ад маленства я меў два розныя жаданьні: або стацца лекарам, або інжынерам мэханікам — піша а. Леў у сваіх успамінках. — Цяпер, маючы матуральнае пасьведчаньне прырода-матэматычнага тыпу без лацінскае і грэцкае моваў — мэдыцына адпала. Я адразу пастанавіў шукаць добрую палітэхніку».

Бог аднак пакіраваў зусім інакш. Быццам прыпадкова, але беспаваротна нераз пасярэдніцтва ўспомненага ўжо І. Цеханоўскага, дырэктара гімназіі і Антона Луцкевіча, дырэктара беларускага музэю ў Вільні, Леў Гарошка трапіў у Львоў у Грэцка-Каталіцкую Багаслоўскую Акадэмію, якой рэктарам быў тады д-р Язэп Сьліпы, цяперашні Мітрапаліт і Кардынал. Студыі ў Акадэміі вяліся на высокім узроўні. Найлепшай гваранцыяй добрай яе славы былі гэткія волаты духа веды і сьвятасьці, як яе закладчык Мітрапаліт Андрэй Шэптыцкі, вялікі дабрадзей беларусаў у тым ліку і новага студэнта Льва Гарошкі; д-р Язэп Сліпы, прафэсары айцы Ішчак, Лаба і іншыя».

Варта заўважыць, што Л. Гарошка быў прыняты ў Каталіцкую Акадэмію бяз ніякіх «адрачэньняў» ад праваслаўя і «пераходаў» у каталіцтва. Паводля цьверджаньня айца Льва, блізу ніхто з вучняў Наваградзкай Беларускай Гімназіі ня прызнаваў тых царскіх актаў, якія сілаю беларусам былі накінутыя. Таму дастаткова было пашырыць гэты пагляд і аднесьці яго да вуніі, якая такжа насільна была царом скасавана ў 1839 г. Некаторыя з вучняў, у тым ліку і Гарошка, былі пасьлядоўныя ў сваіх думках і вунію лічылі сваею верай або прынамсі з ідэяй аднаўлень-

ня пагаджаліся. Таму для Гарошкі, афіцыяльна парваслаўнага, ня было супярэчнасьцю ўступіць у названую вышэй Акадэмію. Чуўся ён там як дома, хаця было там такжа нямала іншых цяжкасьцяў, прыкладам, недахоп моваў лацінскай і грэцкай, якіх у гімназіі прырода-матэматычнага тыпу зусім ня было.

У Акадэміі прабыў а. Леў 5 гадоў: 1931—1936. Апрача звычайнага курсу філязофіі і багаслоўя ў Акадэміі былі надабавязкавыя лекцыі і сэмінары, прыкладам з гісторыі Царквы, царкоўна-славянскае мовы і іншыя. З іх шмат карыстаў студэнт Гарошка. Ён такжа чытаў даклады, на працягу цэлага тыдня, для шматлікіх украінскіх студэнтаў аб беларускім рэлігійным і грамадзкім жыцьці. У Акадэміі падобна як і ў гімназіі мусіў падзарабляць. Дапамагала ў гэтым супалка зарганізаваная сярод студэнтаў дзеля выдаваньня скрыптаў, якой дзейным сябрам быў а. Леў. Будучы слухачом гістарычнага сэмінару, пісаў працу на тэму Полацкай Каталіцкай Епархіі XVIII-га стагодзьдзя пад кіраўніцтвам праф. Чубатага. Праца гэта атрымала вельмі добрую ацэнку з боку прафэсара. Нажаль згінула яна разам з цэннымі сабранымі матэр'яламі ў час апошняй вайны.

Айцец Л. Гарошка будучы студэнтам Багаслоўскай Акадэміі павінен быў знайсьці сабе нейкую епархію (дыяцэзію). Як ня дзіўным можа выдавацца, але Мітрапаліт Ялбжыкоўскі (Вільня), якога мітраполія была населеная беларусамі, не захацеў прыняць нашага сьвятара. Згадзіўся на гэта пазьней Біскуп Пінскі Букраба. Сталася гэта тады, калі пасьля львоўскіх студыяў а. Леў быў высланы тымжа Мітрапалітам Шэптыцкім на далейшыя студыі за граніцу ў Інсбрук. Тут прабыў наш студэнт толькі адзін год (1936—37). Выкліканы Біскупам Букрабай на бацькаўшчыну, у прыватнай капліцы Мітрапаліта Андрэя Шэптыцкага ў Львове быў рукапаложаны ў сьвятара дня 17 кастрычніка 1937 г. Мітрапаліт Андрэй багаславіў свайго студэнта, але сьведама ўстрымаўся ад узлажэньня на яго рук, каб ня меў пазьней у жыцьці рукапаложаны ім сьвятар, дый да гэтага беларус, яшчэ аднэй лішняй цяжкасьці перад польскімі ўладамі. Жыцьцёвы шлях айца Льва пацьвердзіў растаропнасьць вялікага Мітрапаліта. Льва Гарошку высьвяціў у сьвятары Біскуп Мікіта Будка.

Першая Літургія нававысьвечанага сьвятара адбылася ў Далятычах, дзе быў парохам а. Аношка, у прысутнасьці шматлікага народу і роднага бацькі айца Льва.

У жыцьці нашага сьвятара распачаўся новы пэрыяд: служэньня Богу і свайму народу. Умовы да гэтага на сьвеце і на Беларусі былі больш чым цяжкія. На нашай бацькаўшчыне з глуздаў сходзіў польскі шавінізм, на захадзе паношыўся нацызм, а на ўсходзе не зьмяншалася пагроза камунізму. Усё весьціла, што хутка ўдарыць гром і трэба будзе пражыць чалавецтву нябывалы катаклізм.

## III

Новы сьвятар перш быў назначаны ў Любяшоў, адкуль што суботы й нядзелі даяжджаў у Угрынічы. У Любяшове вялі душпастырскую працу айцы Капуцыны ўсх. абраду. Угрыніцкую царкву палякі зачынілі, а багаслужбы адпраўляліся ў капліцы скрытых законніцаў. Пасьля аднак і тую капліцу апячаталі палякі разам са сьвятымі дарамі!

З Любяшова а. Леў быў перанесены Біскупам Букрабай у Гародна на мейсца айца Шымкевіча. Тут такжа былі страшныя цяжкасьці з боку палякаў для сьвятарскае працы. Сам ваявода Костэк-Бернацкі пераадзеты за паляшука прыяжджаў, каб сьлядзіць. Назначаліся розныя прыдзірлівыя кары, прыкладам за непабеляны плот, за недахоп драбіны і т. п. Ня гледзячы на прывязанасьць добрых людзей да свайго пароха, а. Леў быў вымушаны прасіць царкоўныя ўлады, каб яго перавялі ў іншае мейсца. Тады ён быў назначаны ў Стоўпцы на памоцніка а. Селецкаму, украінцу. Тут аставаўся да дня 15 траўня 1939 г., калі загадам наваградзкага ваяводы быў высяляны на заўсёды з г. зв. пагранічай паласы. Гэтак мсьціліся палякі за беларускую душпастырскую дзейнасьць. Айца Гарошку, будучага Марыяніна, спаткаў падобны лёс як і ўсіх Марыянаў беларусаў у Друі, якіх віленскі ваявода Бацянскі высяліў з друйскай парахвіі і гімназіі.

Айцец Гарошка ня маючы зьнікуль абароны пераехаў у Збураж каля Маларыты і тут аставаўся да выбуху вайны.

Падчас бальшавіцкай акупацыі апрача душпастырскай працы, якая станавілася штораз больш цяжкой і блізу немагчымай, а. Леў займаецца лячэньнем сялян. Пасьля пераяжджае ў Баранавічы і тут, пакуль бальшавікі не забаранілі, выкладае беларускую мову ў гандлёвай школе, а для мэдыцынскіх сёстраў беларускую і лацінскую. Пазбаўлены ўсялякай працы ўваходзіць у зносіны з нованазначаным Эгзархам Беларусі айцом Неманцэвічам, едзе зь ім у Львоў на зьезд Эгзархаў, зарганізаваны Мітрапалітам Шэптыцкім. Хутка выбухае нямецка-бальшавіцкая вайна (22. VI. 1940) і тады пераяжджае ізноў у Баранавічы, дзе працуе як запраўдны леў у мэдыцынскай школе, у настаўніцкіх, матуральных курсах, пры рэдагаваньні газэт, у розных беларускіх арганізацыях. Будучы адважным з натуры, няраз наражаўся немцам-акупантам і толькі дзякуючы Божаму провіду выйшаў жывы з тэй куламесы.

У чэрвені 1944 г. разам з іншымі дзеячамі прыймае ўдзел у кангрэсе ў Менску, скліканым БЦР. Паміма цьвёрдага дамаганьня, не атрымаў магчымасьці гаварыць. Хутка пасьля разам з хваляй эміграцыі трапляе ў Бэрлін, дзе адразу складае заяву ў Міністэрства Рэлігійных Справаў, каб далі яму права душпастыра сярод беларусаў каталікоў у Нямеччыне, іне чакаючы яго атрыманьня, арганізуе беларускія Багаслужбы, у чым дапамагалі Равенскі, Іёвец і іншыя.

З Бэрліну неўзабаве пераехаў а. Гарошка ў Мюнхэн і тут дачакаўшы прыходу амэрыканскіх войскаў, пачаў арганізаваць беларускае душпастырства і Беларускі Камітэт. 11 верасьня 1945 г., выставіўшы сам сабе дакуманты, разам з італьянскімі палоннымі, якіх вязла папская камісія, прыяжджае ў Рым. Тут астаецца да 24 кастрычніка 1946 г. Усюды, дзе толькі можа і як можа, інфармуе ватыканскія дзейнікі пра Беларусь і рэлігійныя там адносіны, выдае друкам м а л і т а ў н і к «Божым Шляхам», арганізуе Камітэт і разам з а. Ч. Сіповічам вышуквае беларусаў уцекачоў у Італіі, навязвае зносіны з жаўнерамі беларусамі, якія знайшліся ў арміі ген. Андэрса, дапамагае ім кантактавацца з сабой і арганізвацца. Падпісвае мэмарыял да ген. Андэрса ў справе арганізацыі беларускіх частак і беларускага школьніцтва ў яго арміі.

У канцы кастрычніка 1946 г. назначаецца рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі ў Францыі, куды і выяжджае. Новы працавіты, вельмі інтэнсыўны пэрыяд у жыцьці айца Льва.

Парыж — адзін з буйных цэнтраў эўрапэйскай культуры, натхненьне красы і мастацтва, сяліба бунтарных рэвалюцыйных духаў. Ня шмат аднак занятаму і забеганаму айцу Льву аставалася часу на зьведваньне ці студыі Парыжу. Гэты пазнаваўся сам сабой і прынагодна. Галоўнай мэтай дзейнасьці першага беларускага сьвятара — на стала асеўшга ў Парыжы — была беларуская эміграцыя і яе патрэбы.

Трэба было зарганізаваць рэлігійны цэнтр, наступна дапамагаць людзям ва ўсіх іхніх радасьцях і бедах. Апрача чыста рэлігійнай душпастырскай працы а. Леў хутка ўлучыўся такжа ў грамадзкую дзейнасьць і, хіба ніхто гэтаму не запярэчыць, стаўся яе цэнтральнай фігурай. Пачаў такжа выдаваць ведамы сяньня ўсім часапіс «Божым Шляхам» і быў яго рэдактарам ад кастрычніка 1947 да да канца 1957 году. І тады толькі спыніў рэдактарскую дзейнасьць, калі падарванае працаю здароўе адмовіла паслухмянасьць.

Час выдаваньня «Божым Шляхам» ёсьць найбольш плодным у жыцьці айца Льва Гарошкі ў галіне літаратурнай творчасьці ў шырэйшым значэньні гэтага слова. Апрача рэдагаваньня свайго ўласнага часапісу, ён дасылае свае артыкулы блізу ва ўсе іншыя беларускія газэты і часапісы, якія толькі выдаваліся на эміграцыі. Выдае такжа свае працы асобнымі кніжкамі і брашурамі.

Тут няма змогі падаць усіх, асабліва драбнейшых артыкулаў дагэтуль параскіданых па розных газэтах і часапісах, аднак назавём некаторыя, хаця важнейшыя. Вось яны:

«Божым Шляхам». Малітаўнік для беларусаў. Рым 1946.

Паходжаньне чалавека ў сьвятле сучасных знахадкаў. Парыж 1948.

Душа. Парыж 1948.

Сьв. Еўфрасіня-Прадслава Полацкая, Патронка Беларусі. Парыж 1950.

Беларусь у датах, ліках і фактах. Парыж 1953.

Ерархія і некаторыя статыстычныя даныя аб Праваслаўнай Царкве ад першае Сусьветнае Вайны да 1950 г. Парыж 1950 (машынапіс).

Сваеасаблівасьці беларускае мовы. Парыж 1951.

Зара Хрысьціянства на Беларусі. У «Божым Шляхам» 1957.

Беларуская форма крыжа. «Божым Шляхам» 1957.

Навука і рэлігія (Сьведчаньні вучоных аб Богу і рэлігіі) — розныя артыкулы ў «Божым Шляхам» на працягу некалькі гадоў.

Найстарэйшыя хрысьц. сьвятыні на Беларусі. «Божым Шляхам» 1951.

Цудатворныя іконы Божае Маці на Беларусі. «Божым Шляхам» 1954.

Пад знакам «Рускае і Польскае Веры». «Божым Шляхам» 1954/55.

Савецкая рэлігійная палітыка пасьля 1942 году. «Беларускі Зборнік». Кніга 3. 1965 г. Тое-ж паангельску ў «Byelorussian Review» 2, і ў кнізе «Religion in USSR» і панямецку ў «Expulsus».

Сучаснае рэлігійнае становішча у Беларусі. «Беларускі Зборнік» Кн. 4. Даведнік да гісторыі Царквы на Беларусі. Парыж 1954 (машынапіс).

Культ Маці Божае ў Беларусі. Пафранцуску ў кнізе «Maria» Т. IV. Парыж 1956.

Прычыны Палянізацыі на Беларусі. «Божым Шляхам» 1955.

Прычынкі да беларускае міталёгіі. «Божым Шляхам» 1956.

Жыцьцяпісы беларускіх рэлігійных дзеячоў айцоў: Талочкі, Станкевіча, Неманцэвіча.

Хтосьці закідаў нашаму паважанаму аўтару, што піша на розныя тэмы, а таму ня можа быць належна прыгатаваным, пачынаючы ад сьцісла філязафічных, а канчаючы на філялягічных, хэмічных і біялягічных.

Аднак трэба прызнаць, што Бог абдарыў айца Льва шматлікімі талентамі і я ёсьць пэўны, каб былі іншыя абставіны для яго спакойнай навуковай дзейнасьці, ён стаўся-б адным з вялікіх люмінараў беларускае навукі і то ў розных галінах. Дагэтуль Гарошка выявіў сябе як передавы гісторык нашых царкоўных дзеяў: як зьбіральнік цэнных кнігаў і наагул матэр'ялаў аб Беларусі.

Ня можна такжа прайсьці моўчкі сабраных ім матар'ялаў, якія чакаюць яшчэ сваіх выдаўцоў: беларускія прыказкі (больш 20.000), матар'ялы да грэцка-лацінска-славянска-беларускага слоўніка, Бібліяграфія адносна беларусікі, каталёг выдаваных газэт і часапісаў усей беларускай гісторыі навейшых часаў, сьпіскі ўсіх праваслаўных герархаў і іхніх епархіяў.

А ці-ж не ўзварушаць чытача расказы Анатоля Жмені, друкаваныя ў «Божым Шляхам»?! Колькі ў іх беларускай псыхалёгіі і чыста мастацкай красы!

Айцец Гарошка ня меў змогі атрымаць навуковыя ступені, але больш з сябе даў чымся шматлікія прафэсары або доктары, а гэта перадусім дзякуючы пільнаму выкарыстоўваньню часу, напружаным студыям, дый добрай падрыхтоўцы да іх, якую меў у навагрудзкай гімназіі і ў львоўскай Акадэміі.

Ад 1959 г. а. Леў Гарошка ёсьць сябрам Закону Айцоў Марыянаў. Як выдатнага ігумена і законніка Апостальскі Пасад ня мог яго не заўважыць. Зусім заслужана прызнана яму тытул Архімандрыта, уласьцівы толькі законнікам, які раўняе яго ў годнасьці з лацінскімі пралатамі і ўсходнімі мітрафорнымі протоіереямі.

Астаецца пажадаць, каб дарагі Архімандрыт, які яшчэ ў сіле веку, падправіўшы сваё здароўе, ня выпускаў надалей з рук пяра, здабываючы новыя пазыцыі для славы Божай і Бацькаўшчыны і каб якнайхутчэй выдаў друкам матар'ялы працавіта дагэтуль ім зьбіраныя і парадкаваныя.

Лёндан, 14. I. 1966.

**А. Дзедзінка**

# Падарожжы па Беарусі Хрысьціяна Шегея (1780)

Шкада, што недахоп друкаванай беларускай літаратуры XVIII стагодзьдзя не дае нам поўнасьцю пазнаёміцца з характэрнымі праявамі беларускага жыцьця ў той час. Бяз сумніву прычынаў такога зьявішча трэба шукаць у палітычных і эканамічных адносінах. Таму і наша веда тагачаснага грамадзкага жыцьця і яго ўмоваў ёсьць няпоўнай. Інакш было ў заходніх краінах Эўропы, дзе такой меры пісьменнікі як Дідэрот, Ліхтэнбэрг і Людовік Гольдбэрг пакінулі за собой творы, у якіх ярка апісалі жыцьцё сваіх краінаў у эпоху ведамую пад назовам Эпохі асьветы. У Беларусі ў той час, апрача некалькі нудных інтэрлюдыяў, цяжка штосьці знайсьці з літэратурнага матар'ялу, што дапамагло-б нам адчуць пульс тагачаснага жыцьця.

Таму з пэўным пачуцьцём удзячнасьці мы бяром у рукі пісьменны твор малаведамага нямецкага падарожніка, які вельмі цікава апісаў Беларусь, якую пазнаў у час сваіх падарожжаў у апошнім дзесятку XVIII ст. Дзякуючы яму мы маемо змогу падыхаць атмасфэрай тых часоў, чаго нажаль беларуская літэратура нам ня пераказала.

Хрысьціян Геранім Юстын Шлегель нарадзіўся ў Іене ў Турынгіі 1757 г. Бацькі яго былі мяшчане пратэстанты. Мала што ведаем аб яго раньніх гадох, апрача толькі таго, што маладым выехаў праз Любэку зь Нямеччыны і накіраваўся ў Таллін у Эстонію. Там працаваў настаўнікам у аднэй балтыцка-нямецкай сям'і. Яго галоўным упадабаньнем, як сам аб гэтым успамінае, былі падарожжы. Зрабіў ён іх ня менш як пяць у розныя менш адведваныя часткі расейскай імпэрыі і то ў часох, калі падарожжа не заўсёды давала толькі прыемнасьць. Апошнія гады жыцьця ён правёў у Ст. Пецербургу, дзе і памёр у 1842 г.[1]

Зразумела, што для нас найбольш цікавы падарожжы Шлегеля па Беларусі. У першай, якая адбылася ў 1780, ён ехаў з Эстоніі ў Пскоў і адтуль у Полацк, Віцебск, Магілёў і Гомель.

Мала падарожнікаў запісала свае ўражаньні так жыва, як Шлегель. Бяз сумніву ён меў талент рабіць нарысы і малюнкі людзей і краявідаў. Часам яго зацемкі больш падобныя да нататак бізнэсмэна, іншым разам ён умее пацешыць чытача апісаньнем поўным пачуцьця і чару. Мала што магло высьлізнуцца з пад яго абсэрвацыі. Умее заўважыць, як выглядалі людзі, іхняя вопратка, іх цноты і слабасьці, абычаі, легенды, песьні і скокі, архітэктура і мэбліроўка да-

[1] Eesti Entsüklopeedia, Tom VII, Tartu 1936, бач. 601.

моў, зьменны характар краявіду у залежнасьці ад пары году. Ён натуе гутаркі з мясцовымі жыхарамі і падарожнікамі. А ўсё апісвае жыва і нярэдка з гумарам.

Падчас першай падарожжы ён зьведаў Полаччыну і Магілёў, якія былі часткай Вялікага Княства Літоўскага, а пазьней былі далучаныя да расейскай імпэрыі. Як бальшыня людзей заходняй Эўропы таго часу, што нажаль здараецца і цяпер, Шлегель меў цяжкасьці, як адрозніць нацыі тых краінаў. Сялян ён называе палякамі, аднак стараецца паясьніць, што лепш было-б называць іх ліцьвінамі, г. зн. гістарычнай назвай. Іншым разам, каб адрозьніць іх ад апалячанай шляхты, называе сялян расейцамі. Аднак з усяго апісаньня бяз цяжкасьці пазнаецца, што ён займаецца беларусамі, а тымбольш гэта ясна, бо краіну ўсьцяж называе Беларусь.

Разьмеры нашага часапісу не пазваляюць нам ісьці сьледам за Шлегелям, асабліва там, дзе ён робіць дыгрэсіі гістарычнага ці іншага характару, аднак на галоўных этапах будзем яго вернымі сябрамі. Далучаемся да яго на шляху ад Пскова да Полацку дзесь у 1780 годзе.[2]

Г. П.

*

*(Бач. 70) «...Лікошкава — паштовая станцыя. Ад Апошкі сюды нічога іншага, як толькі лясы. Грунт пяшчаны. Чым бліжэй пад'яжджаеш да Полацку, тым больш глеба становіцца шэраватаю. Пасьля дзьвюх станцыяў за Апошкай ішла граніца калішняй Расеі і пачыналася далучаная да Польшчы Беларусь. На слупе пышны расейскі арол, а недалёка старыя мытныя дамы, разваленыя драўляныя будынкі, у якіх ніхто цяпер ня жыве, а калісь яны былі страхоцьцем для купцоў. Ад часу, калі Расея пашырыла свае межы, яны тут страцілі прызначэньне ...»*

У далейшым Шлегель апісвае арганізацыю станцыяў, паштовых дамоў і розных спосабаў падарожжа па расейскай імпэрыі.

*(81) «Чым бліжэй мы пад'яжджалі да Полацка, тым больш адчыняўся перад вачыма круг жыцьця са шматлікімі вёскамі. Часта мы бачылі зь верхавіны ўзгорку аж некалька іх, гледзячы ўперад гарызантальна (мы ўжо ня былі акружаныя лесам), гэта быў краявід, якога мы доўга ня мелі. Чаму — я пытаў сябе — паблізу старой расейскай і польскай мяжы ня было нікога зь людзей? Магчыма прычына ўсяго гэтага ў арганізацыі ўспомненых дзяржаваў: магчыма гэта тлумачыцца тым, што калі адна старана пранікала ў суседнюю тэрыторыю, тады яна называлася маемасьцяй тых, каго адпіхала назад. Хто-ж тады (а яно здаралася па абодвых баках) меў-бы ахвоту сяліцца блізка граніцы? І так яно ёсьць, што гэтыя мейсцы астаюцца пустымі ...»*

*(82) «ПОЛАЦК — горад раскінуты над Дзьвіной. Ён мае вялізныя будынкі Ўраду, езуіцкую калегію, прыгожую езуіцкую царкву і некалька іншых увагі годных мураваных будынкаў. Тут ідзе даволі ажыўлены гандаль з Рыгай пянькі, лёну, сланіны, скураў, збожжа, мёду і воску. Полацк ёсьць найстарэйшы горад Беларусі».*

Калі аўтар апісаў эканамічныя адносіны гораду, пераходзіць да яго тапаграфіі і гісторыі, затрымаўшыся даўжэй над страхоцьцем і зьнішчэньнем прычыненым Іванам Грозным у 1563 г.

Адносна насельніцтва дык няшчасныя жыды зрабілі на падарожніка дрэннае ўражаньне, хаця можна дагадацца, што ён загадзя быў да іх прад'узяты. Шлегель піша аб іх:



*Полацак на пач. XIX стаг.*
*(Літаграфія Н. Орды)*

*«Польскія жыды, якіх тут мноства, падобныя да нейкага пудзіла на варонаў. Па шчоках зьвісаюць пучкі чорнага або чырвонага валосься (часанага або нечасанага) і яно зьліваецца з доўгай барадою. Галава ад патыліцы да чала выгалена, на ёй чорная абціснутая ярмулка з хвосьцікам падобным да шаліка, а яшчэ на гэтым чорная футровая шапка, якую ён носіць нават у палавіне лета. Вопратка — нешта падобнае да польскага пад'адзеньня, чорная, нашытая белымі гузікамі, што йдуць уздоўж зьверху ўніз. На гэтым усім чорны ваўняны манталет або шаўвоску. Полацк ёсьць найстарэйшы горад Белары выгляд».*

Пасьля кароткай дыгрэсіі, у якой Шлегель падае выясьненьне аб жыдох, чаму так а ня

---

[2] Аб гэтых падарожах мы даведваемся з рэдкай сяньня кніжкі Хрысьціяна Шлегеля: Reise aus Polen nach St.-Peterburg, Meiningen 1818. А такжа з кніжкі: Reise in mehrere russische Gouvernements in den Jahren 178*, 1801, 1807 und 1815, Meiningen 1823, T. II.

Мы падаём у дасл. тлумачэньні цікавы матэр'ял немца падарожніка.

інакш яны носяць валасы, ён зноў вертаецца да закранутай справы:

*«На выстрыжанай галаве чорныя адна на другой густа разсеяныя плямкі нават у дзяцей, у якіх нярэдка можна бачыць сьляды абрыдлай хваробы скуры чэрапа: дзіркі у панчохах, зношаны падзёрты абутак, у якім яны валочацца па вуліцах, — хто ня прызнае, што усё гэта агіднае?»*

Наступна аўтар стараецца выясьніць, якім трафам знайшліся жыды зь Нямеччыны ў Беларусі і канчае свае спасьцярогі вострай нагонкай супраць бруду і хцівасьці.

Прачытаўшы такое апісаньне аб жыдох, чытач не бяз пэўнага страху прыступае да расказу аб езуітах. Гэтых аднак Шлегель пашчадзіў.

*(91) «Полацк ёсьць іхнім цэнтрам, там-жа і местапрабываньне і генэрала езуітаў. Сам ён пажылых гадоў: мае каля 80, з доўгай плаўнай белай барадою, ужо самым сваім выглядам спрычыняе імпануючае ўражаньне.*[3] *Апрача Полацку, у шмат якіх іншых гарадах Беларусі знаходзяцца школьныя езуіцкія ўстановы: у Віцебску, Оршы, Магілёве, Мсьціслаўі, Дзьвінску. Лік іхні не перавышае 200 чалавек. Між імі ёсьць французы, немцы і італійцы. (92) Мясцовы біскуп каталіцкі — такжа езуіт».*[4]

*«Там ёсьць каля 50 немцаў, а ў цэлай губэрніі іх двойчы больш. Некаторыя зь іх рамесьнікі, дырэктары пошты або эканомы, іншыя на цывільнай службе — дактары або фэльчары, гараднічыя, судзьдзі, каморнікі і т. п.»*

*«У адлегласьці чатырох вёрст ад гораду знаходзіцца прыгожая мураваная рэзыдэнцыя вуніяцкага Архібіскупа з прыгожым садам, а з фронту пляц абведзены палісадам. Недалёка адгэтуль ёсьць вуніяцкая царква з дрэва».*

*(93) «Паветра становіцца мягчэйшым і ня душыць больш балотнай немарасьцю. Лясы спатыкаюцца толькі ад пары да пары. Гусьцей бачуцца вёскі. Пасецца быдла, падскакваюць казлы і козы. Усё выглядае радасна і шчасьліва. Калі я параўняю гэтае акружэньне з тым, што бачыў ля старой расейскай граніцы, розьніца ёсьць такая надзвычайная і такая вялікая што я гатоў падумаць, быццам перанёсься ў найбольш далёкую краіну».*

*«Польскі (лепш сказаць літоўскі) селянін ёсьць малога, а не вялікага росту, ён шчуплы а не прысадзісты, мае рэгулярныя рысы твару і звычайна сьветлыя валасы: дзеці маюць валасы ясныя як лён. Бегаюць яны босыя ў маленькіх кашульках і маюць прыемны выгляд. Бацька носіць белявую палатняную кашулю, белую кепку і гадуе вусы над верхняй часьцю вуснаў. Ногі ён акручвае шнуркамі і ходзіць у сплеценых з абораў лапцях. Падарожнік звычайна мае адну (94) або дзьве пары лапцяў, якія завешвае на восі. Калі ношаная пара разьлязіцца на кусочкі, ён яе выкідае, бярэ другую пару з восі і носіць датуль, пакуль не зьдзярэцца. На дарогах заўсёды можна знайсьці гэтага роду абутак.*

*Дробны польскі шляхціц, (калі гэта для яго магчыма), ходзіць у ботах. Усім ёсьць добра ведама, што гэткі панок, далёкі ад усялякай шляхотнасьці, служыць іншаму шляхціцу або працуе на собскай зямлі. Часта здараецца, што ён атрымоўвае ў спадку адну або дзьве сям'і мужыкоў. Ён працуе на ральлі ахвотна зь імі, бо інакш не магчыма (пражыць), але на знак свайго шляхоцкага паходжаньня і дзеля пяршынства перад імі, бядой прыціснуты, на аднэй назе мае бот (95), а на другой лапаць. Ён так усюды паказваецца, пакуль не здабудзецца на другі бот.*

*Багаты шляхціц выглядае па вайсковаму і мае адзетак ваякі. Ён ёсьць высокага росту, добра збудаваны, шляхотнай паставы, мае чорна-праніклівыя вочы, падаўгаваты нос, цёмна-чорныя валасы. Звычайна ён носіць шаўковае пад'адзеньне даўжынёй да калена з вузкімі рукавамі, а на гэтым сурдут даходзячы да костак ног. Рукавы сурдута да паловы разрэзаныя і зьвісаюць, яны закорчываюцца ў кірунку плечаў. Калі холадна або дождж, спускаюцца ўніз і абцягваецца імі шаўковы матар'ял. На вярху на ўсім гэтым ён носіць золата-тканы пояс, леваруч якога зьвісае доўгая шабля ў (96) футарале стальным. Ён заўсёды носіць боты. Галава яго гладка падголена сьпераду і ззаду, а на верху галавы гадуе пук валасоў з палец доўгіх, — усё разам падобна да сподку для дэсэрту. На гэта надзяе яшчэ шапку з шэрай крымскай авечай скуры... Шапку носіць летам і зімою, рэдка калі можна яго ўбачыць з голай галавою.*

*Калі паляк мае на галаве шапку і калі стаіць у паўнаце сваіх дастойных шатаў (убраньня), выглядае імпануюча. Тады мае выгляд ваякі і мае ў сабе штосьці, што змушае рэспэктаваць яго і баяцца. Але, калі шапку здымае і стаіць выставіўшы лысую патыліцу, тады да паловы выглядае як ваяка, а другая палова мае выгляд насьмешлівы. Ад ног да плячэй ён жаўнер, а зьверху — бэнэдыктынскі манах.*

У далейшым ізноў аўтар робіць дыгрэсію на тэму, чаму палякі голяць галаву. Тлумачыць гэты звычай уплывам манахаў.

*(102) «... Уся тая ваколіца, праз якую мы цяпер праяжджаем, ёсьць урадлівая, вельмі прыемная і ў далейшым упрыгожаная алеяй бярозаў, сярод якіх вядзе дарога. Гэта ёсьць работа расейскага ўраду.» (5).*

---

[3] Тут мова аб айцу Чэрневічу (1728—1785).

[4] Архіб. Мітрапаліт у гэтым часе быў Язон Юноша-Смагажэўскі (1762—1786), а першы лацінскі польскі Біскуп, як Суфраган Магілёўскага Мітрапаліта, быў Бэніслаўскі (1782—1811).

[5] Праўдападобна адна з вайсковых дарог збудаваная царыцай Кацярынай, каб выгаднейшы быў даезд да граніцы.

# Мая паездка ў Святую Зямлю

Так шмат я аб Сьвятой Зямлі дасюль чуў, чытаў, вучыўся сам і вучыў другіх, што ня меў ніякай цікавасьці туды ехаць — толькі, каб на яе паглядзець. Мне толькі было стыдна, што я — такі шматгадовы вучыцель — «біблейскі кніжнік» — да старасьці не пачуваў патрэбы аддаць чэсьць гэтаму асабліваму кутку сьвету, які выбраў і асьвяціў Сам Бог.

І вось я — ў Палестыне, у Сьвятой Зямлі!

Перад паездкай я думаў, што ў Палестыне не знайду нічога мне няведамага, а ўсёж-такі знайшоў шмат новага; а нават магу сказаць, што зусім цяпер жыцьцё там іншае: ні хаты, ні адзежа, ні мова ня прыпамінаюць біблейскіх абставінаў. Толькі жывёла і птушкі — куры, сабакі, каровы, авечкі, козы, асабліва аслы — утрымалі свой старасьвецкі, прыродны тып і характар.

А ў жыцьці краю 1), што я заўважыў — *Электрычнасьць:* уначы, як я ляцеў самалётам, убачыў, што ўся Палестына — ад Лібану да Егіпту — заліта электрычным сьвятлом, а сталіца Тэль-Авіў проста затанула ў сьвятле!

Другое — ангельская мова. Увялі яе англічане, калі 50 гадоў таму адабралі Палестыну ад туркаў. Калі Ізраэль заняў Сьв. Зямлю пасьля англічанаў, дык — каб угадзіць амэрыканцам — утрымалі ангельскую мову надалей: увялі, праўда, яшчэ гэбрайскую і арабскую, і ўсіх гэтых трох моваў навучаюць у школах.

---

*(103). Сорзіца. Берагі Дзьвіны вельмі высокія. Яны не падымаюцца паступова, але стырчаць з водаў быццам войстрыя скалы. Вышыня іх можа сягаць 18-20 локцяў. (6) Вартавалі іх казакі, бо тут пераходзіць новая граніца з Польшчай. Некаторыя зь іх пабудавалі для сябе драўляныя наверсе хаткі, іншыя зрабілі сабе ўнізе з зямлі сховішчы. Дзеля таго, што мы прыбылі сюды на паштовым возе, нас ніхто не затрымаў, бо зразумела само сабой, што ніхто ня даў-бы нам паштовых коняў, калі-б мы ня мелі пашпарту. Мы перайшлі гэту шырокую раку на пораме, дзе зьмясьціліся воз і коні. Хто жадаў аставацца на сваім мейсцы, мог. Хто быў нясьмелы, мог пасьпяшацца (на порам), перш, чымся коні ўцягнулі воз і ў часе пераправы мог стаяць на мейсцы больш бясьпечным.*

*(104) Як толькі мы перайшлі на другую старану і падняліся па касагору, даехалі да станцыі і так мы знайшліся ў Магілёўскай губэрніі».*

(Далей будзе)

[6] Локаць прыблізна 14 вяршкоў — менш аршына, каля паўмэтра.

3) Усюды праводзяцца, як пачалі ангельцы, добрыя дарогі.

4) Каналізацыя і іррыгацыя — гэта ўжо работа самых жыдоў.

5) Нябывалыя дасюль плянтацыі бананаў, дактылёвых пальмаў, апельсінаў, цытрынаў, тытуню і бавоўны. А таксама ягады, фрукты і збожжа, што ўспамінаецца ў Бібліі, — фігі, аліва, і што паслужыла да Сьвятой Літургіі, — пшаніца і вінаград.

*

Музульмане-арабы трымаюцца старой традыцыі; хрысьціяне-арабы пераходзяць на спосаб жыцьця навачасны, а жыды-і так і сяк: некаторыя адарваліся ад усякай традыцыі і сталі камуністамі, ледзь не бязбожнікамі. Іншыя зь іх — ортодоксы-стараверы — моцна ўглыбіліся ў старую традыцыю; найбольшая частка — бізнэсмэны — аглядаюцца толькі на Амэрыку.

Я вельмі ўдзячны Богу, што мог наведаць Сьвятую Зямлю.

Пачнём нашую гісторыю ад *Назарэту!* Гэта, мусімо сказаць, самае шчасьлівае ў Сьвятой Гісторыі мястэчка, бо тут споўнілася тое абяцаньне Збаўленьня чалавецтва, што Бог даў у раі першым людзям: тут *Сын Божы,* Праўдзівы Бог, стаў Сынам Дзевы Марыі і праўдзівым *Чалавекам.* Праўда, радзіўся Ён у Бэтлееме і паказаўся ў Еразаліме, дзе быў ахвяраваны Богу ў сьвятыні. І тое праўда, што ў Бэтлееме «ня было Яму месца» — ня прынялі Божую Маці ні у адзін дом, дык Хрыстос нарадзіўся за горадам, у стайні і быў паложаны ў яськлях. Ды і сам Еразалім не пазнаў Яго, бо кажа Сьв. Эванэлія, што «цар Ірад занепакоіўся і ўвесь Ерузалім з ім» (Мацьв. 2, 3).

І вось Сьвятая Сям'я мусіла ратавацца ад злосьці цара Ірада ў Егіпет. Пасьля толькі эпізодамі Ісус Хрыстос даходзіў да Еразаліму, каб там аб'явіць сваё Бажаство перад усей «Сынагогай» — сьвятарамі і вучонымі Старога Запавету, каб там устанавіць Сьвятую Эўхарыстыю — Сьвятыя Таінствы (Сакраманты), і каб там прыняць крыжовую сьмерць, а пасьля ўстаць жывым з гробу і ўзыйсьці на неба.

А большую частку свайго жыцьця правёў Хрыстос у Назарэце і яго аколіцах. І дзеля гэтага Хрыста называлі «галілейчыкам», а Пілат загадаў напісаць на крыжы: «Ісус Назарэцкі Цар Жыдоўскі».

У Назарэце адамавілася Сьвятая Сям'я і там прабываў Збаўца, пасьля павароту з Егіпту, да 30-ці гадоў свайго жыцьця: у ціхасьці,

ў малітве і працы. Там-жа жылі блізкія родныя-фаміліяты Дзевы Марыі і Сьвятога Язэпа. Э гэтых родных, якіх называлі братамі, былі два пазьнейшыя апосталы, Якуб (Малодшы) і Іуда-Тадауш: яны такжа часткова пісалі ў Новым Запавеце. З Галілеі былі і ўсе другія апосталы, апрача Іуды Іскарыёта.

У Галілеі ёсьць і тое слаўнае возера Генэзарэт і там-жа гара Табор. У Галілеі якраз былі тыя мястэчкі — Кафарнаум, Наім, Бэтсаіда, Кана; праз Галілею праходзіць рака Ярдан. Значыць, ня толькі Назарэт, але і ўся Галілея была сьведкаю цудаў, навук і жыцьця Ісуса Хрыста. — Дзеля таго і я насамперш хацеў трапіць у Галілею.

Прыляцеўшы самалётам праз аўстрыйскую Вену і грэцкія Афіны ў Ізраэль, у горад Тэль-Авіў і адну ночку там праспаўшы, зара раненька аўтабусам я паехаў у Назарэт. Тамака затрымаўся ў кляштары АА. Францішканаў і пабег на другую старану вуліцы, дзе канчаюць будаваць базыліку Дабравешчаньня Божае Маці. Зыйшоў я там у сутарэньне: там у склепе — ёсьць капліца — «грота» і там убачыў лацінскі надпіс: «Тутака Бог стаўся Чалавекам». І вось там я — з вялікай радасьцяй — адслужыў Сьвятую Літургію 5-га верасьня 1965

Пасьля Божае Службы, адпачыўшы, я наняў таксі на цэлы дзень і паехаў аглядаць Галілею. Ведама, як я сам — асоба малаважная, дык і мае падзеі такія самыя, — таму я і не хацеў апісываць у газэтах гэтай прыгоды. Аднак калі Паважаны Рэдактар «Божым Шляхам» дамагаецца гэтага, дык я пастараюся апісаць, хоць ня ўмеючы . . .

З Назарэту я накіраваўся да гары Табар, дзе Хрыстос — на вачах трох найважнейшых апосталаў — Пятра, Якуба і Яна — перамяніўся, прыняўшы на Сябе вялізную славу. І там пры Ім зьявіліся два найвялікшыя сьвятыя прарокі Старога Запавету — Майсей і Ільля, якія гаварылі з Хрыстом аб Яго будучай сьмерці.

Цяпер там стаіць манастыр. Гара Табар вельмі высокая і зь яе верху відаць усю Галілею: на ўсходзе возера Генэзарэт, а на захадзе Сяродземнае мора. З гары мы паехалі да возера, аб'яжджаючы наўкол з заходняе стараны, дый ехалі так доўга, шукаючы месца, каб дайсьці да вады. Але скрозь стаяць па беразе прыватныя дамы — сялібы. Урэшце прыехалі да месца, дзе Гасподзь паказаўся некаторым апосталам пасьля Свайго ўскрашэньня. Там апосталы цэлую ноч лавілі рыбу, з Пятром на чале, але не злавілі нічога. Хрыстос сказаў ім: «Закіньце на правы бок чаўна і зловіце. Яны закінулі, ды ўжо не маглі выцягнуць сеці ад масы рыбы». (Ян, 21, 6).

Пётр выскачыў з лодкі і даплыў да Ісуса і знайшоў там прыгатаванае сьнеданьне. На гэтым-жа месцы Гасподзь сказаў Пятру: «Пасі авечкі мае!»

Тамака італьянцы пабудавалі прыгожую капліцу і манастыр для італьянскіх манахінь. А ў сваей падарожы па Палестыне Папа Павал VI затрымаўся пры гэтым манастыры і ў кляштары абедаў. І там магчыма дайсьці да вады: я зыйшоў на самы бераг, мыў рукі і піў ваду. А вадзічка чысьценькая і смачная, толькі-ж цёплая ад гарачага сонца!

З калісьці вялікага Капэрнауму асталіся толькі руіны. Так дзіўна споўнілася пагроза і прароцтва Ісусава: «І ты Капэрнауме, аж да неба узносішся, — аж у пекла апусьцішся . . . (Мацьв. 11, 23). А горад быў багаты, слаўны земляробствам, рыбалоўствам і гандлем.

Ад возера паехалі да Каны, дзе Хрыстос на вясельлі перамяніў ваду ў віно і пасьля былі ў Наіме, дзе ўскрасіў юнака, сына беднае ўдавы. Плянавалі яшчэ паехаць да гары Кармэль, але я ўжо пачуваўся змучаны, дый прытым Кармэль — гэта ўжо не Галілея. Так вярнуўся у Назарэт да сваіх Францішканцаў.

Добра адпачыўшы, па вячэры я пайшоў да недалёкага касьцёла Сьв. Язэпа, дзе была Імша для каталікоў-арабаў. Вялікі касьцёл быў поўны верных — добрая тысяча! — там адпраўлялася Імша паводле новай лацінскай Літургіі: ксёндз зьвернены да людзей, малітвы па арабску і па лаціне, арабскае казаньне і хор — 50 сьпявакоў. На другі дзень я ў гэтым-жа касьцеле адправіў лацінскую Літургію. Пасьля пайшоў аглядаць горад — новы Назарэт і зайшоў у праваслаўную грэцкую царкву . . . Пры дарозе дробныя гандляры манілі, разлажыўшы свой тавар проста на зямлі, прыгодных пакупнікаў.

З Назарэту мы — чатыры асобы — нанялі аўто і паехалі праз Тэль-Авіў у Еразалім. У гэтым горадзе мне асабліва хацелася пабачыць і аддаць пашану слаўнай гарэ Сыён: я помніў, што Сыён выбраны Богам і заваяваны царом Давідам, стаўся сымбалям Божага Царства на зямлі. Давід тут пабудаваў свой палац і замак, а Салямон — сьвятыню. Не дарма Сыён быў усхвалены ў псальмах і ў прароцтвах!

І сам Хрыстос выбраў Сыён на месца сьвятыні Новага Запавету: тут уласна ўстанавіў — у вялікай залі-сьвятліцы — Тайну Сьвятое Эўхарыстыі на астатняй Вячэры. Тут разьвітаўся з апосталамі і вывеў іх адсюль на Аліўную гару, дзе пачаліся Ягоныя мучэньні. І Хрыстос, пасьля свайго ўскрашэньня, паказаўся апосталам; адсюль вывеў іх на Аліўную гару, калі меў узыйсьці на неба. Таксама тут апосталы атрымалі Сьвятога Духа.

Так Сыёнская сьвятліца рассьвяцілася агнямі Сьвятога Духа і сталася першай хрысьціянскай сьвятыняй.

Як жыды цанілі гару Сыён, відаць з таго, што рух народнага адраджэньня назвалі «сыянізмам» і маніліся ў Еразаліме абаснаваць сваю сталіцу, аднак ледзь здолелі адабраць ад арабаў палавіну гораду з гарою Сыён.
Дык і я накіраваў першыя свае крокі на гару Сыён. Паглядаючы наўкол, убачыў грамадны касьцёл з высокаю званіцай. Пытаюся: «Што гэта?» Кажуць: «Дорміціон Чэрч» — «Успенскі Сабор».

«Ага!» падумаў: «Давідава вежа, Салямонава вежа» . . . Убачыў і надпісы і стрэлкі, што паказвалі дарогу да «Магілы Давіда». Ведама, гэта самае важнае для жыдоў; а для мяне было важней знайсьці Сьвятліцу — Вячэрнік: вось і знайшоў усё патрэбнае. Касьцёл у верхней і падземнай частцы вельмі пыгожы, закончаны перад II-ою вайной. Самы Вячэрнік, нядаўна (і незаўсім) перададзены каталіком, астаецца толькі пустой вялікай сьвятліцай, у якую толькі за білетамі ўпускаюць жыдоўскія ўрадоўцы — уваходзяць жыды, каталікі, музульмане і наагул людзі ўсякай веры. Няма там ні аўтара, ні абразоў, ні лавак, ні надпісаў: самыя голыя сьцены сваей канструкцыяй паказваюць сьляды розных гістарычных падзеяў з часоў рымскіх, грэцкіх, арабскіх, крыжаносцаў . . . Каталіцкі манах выясьняў значэньне гэтага сьвятога месца.

*

Выйшаўшы зь Вячэрніка, я ўжо нічога больш не зьбіраўся бачыць у Сьвятой Зямлі. Я ведаў, што на арабскай старане ёсьць другія вельмі важныя памяткі і месцы, як Бэтлеем, берагі Ярдану і асабліва Кальварыя з Гасподнім Гробам, але я разумеў, што там Хрыстос утаіў сваю Божую сілу і паказаў толькі сваё чалавечае паніжэньне.

На Кальварыю я так і не пасьмеў пайсьці: баяўся, што не найду ў сваім сэрцы адпаведных пачуцьцяў, так як і апосталы туды не пайшлі падчас Хрыстовых мукаў. Відаць, што і Сам Хрыстос не хацеў іх там мець сьведкамі. Адзін толькі апостал Ян, як таварыш Багародзіцы, і некаторыя набожныя жанчыны ішлі за Госпадам і стаялі пад ягоным крыжам.

Папа Павал VI, будучы ў Сьвятой Зямлі, узыйшоў на гару Кальварыю, але я ня меў сілы нашага Найвышэйшага Пастыра. Мне досыць было бачыць Вячэрнік, дзе наш Збавіцель, паканаўшы сьмерць, жывы і радасны паказаўся апосталам: «І ўзрадаваліся вучні, ўбачыўшы Госпада». Ісус-жа сказаў ім: «Мір вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас» (Ян, 20, 20-21).

Цяпер я ўжо толькі думаў аб выезьдзе із Сьвятое Зямлі. Апошнія мае гадзіны я пасьвяціў на пісаньне картачак да сваіх прыяцеляў у Эўропе і ў Амэрыцы.

(Увага Рэдакцыі: Адной і немалой перашкодай, што а. Міхал Урбановіч ня мог быць у другой частцы Еразаліму, нам здаецца, было яшчэ і тое, што там другая дзяржава, Іорданія, дзе вымагаецца адмысловая віза, якая бяз труднасьцяў ня выдаецца).

*а. Урбановіч*

---

ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Гэтым падаецца да ведама, што Беларуская Школа для Хлапцоў імя Сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане пачала прыём кандыдатаў на 1966—67 навучальны год.

У школу могуць быць прынятыя хлопцы беларускага паходжаньня ў веку ад 8 да 12 гадоў.

Лік вольных месцаў у школе вельмі агранічаны. Дзеля гэтага зацікаўленыя бацькі ў сваім собскім інтарэсе павінны зьвярнуцца да кіраўніка школы ў як найхутчэйшым часе. Каб унікнуць непатрэбных затрымак і непаразумленьняў, бацькі павінны адразу падаць імя і дакладную *дату нараджаньня сына*, а таксама прысласць арыгінал або копію апошняга *школьнага пасьведчаньня*. Апошні тэрмін складаньня заяваў мінае 31-га траўня 1966 г. для кандыдатаў з Эўропы і 30-га красавіка для кандыдатаў з заморскіх краінаў.

У ўсіх справах зьвязаных з школаю пісаць на адрас:

The Rev. Headmaster,
St. Cyril's House
41 Holden Road,
London, N. 12.

# Беларуская Гравюра ў Дрэве

**Ф. СКАРЫНА**




Палац цара Салямона

*Гравюра Скарыны прадстаўляе палац Салямона згодна з біблійным апісаньнем і адначасна выяўляе ягоную прыхільнасьць да формаў італьянскае архітэктуры. Калянады і зубчаты карніз а так-жа аркады з шалёўкамі на другім паверсе прыпамінаюць раньняе рэнэсансавае «palazzo» з Падвы ці Вэнэцыі. Тыповым элемэнтам гэтае гравюры ёсьць гаргуі і львіныя галоўкі між аркадамі, якія ўпрыгожваюць верх будынку.*




Цар Салямон прымае царыцу Сабу

*«Калі царыца Саба пачула аб славе Салямона, у імя Госпада прыбыла выпрабаваць яго загадкамі. Прыбыла-ж яна ў Ерузалім з вялікім дворам, а вярблюды несьлі пахучыя рэчы і шмат золата і дарагіх каменяў». (III Кніга Цароў X, 1-2). Мастак напэўна быў добра абзнаёмлены з усімі гэтымі экзотычнымі стварэньнямі, бо ягоны рысунак вярблюдаў ёсьць задзіўляюча дакладны. Ён нават паказвае даволі добра, хоць і зьменшана, слана з забаўнаю трубою ў хобаце.*

*Царыца Саба апранена ў кароткую вопратку з вялікім дэкольтэ, апіраецца на падлокатнікі і здаецца, што разважае аб мудрасьці Салямона, з якою ён адказвае на яе цяжкія пытаньні. Аблічча і рукі цара нарысаваны асабліва акуратна. На першым пляне праваруч двое прыдворных заняты глыбокім разважаньнем — ці то аб мудрасьці Салямона, ці слана — цяжка сказаць. А тут-жа за імі і каля трону знайходзіцца якісьці прыдворны слуга ў афрыканскай шапцы — нарысаваны вельмі прыгожа і жыва.* *Г. П.*

# ВАЖНЫ ДАКУМАНТ

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»: Замешчаем копію вельмі важнага і цікавага дакуманту з 1926 г. Студзень. Гэтаму споўнілася 40 ГОД.

## ПОКЛІЧ

З безпрыкладнай у гісторыі народаў адвагай Беларускі Народ вядзе змаганьне за сваё вызваленьне ад чужацкай няволі.

Каб зменшыць вагу барацьбы за вольнае слова, за родную школу, за мову і сваё палітычнае і гаспадарска-эканамічнае жыцьцё, — нашы ворагі што-дня карыстаюцца сваей і заграпічнай прэсай, каб давясьці сьвету, што гэта бандытызм, а не вялікая вызвольчая барацьба за сваю свабоду. Паўстаньні ў Заходняй і ва Усходняй Беларусі жорстка душацца, а падаюцца весткі у прэсу, што беларускае селянства і непісьменна, і нацыянальна несьвядома, **а таму зьвяртаць увагу** на іх барацьбу і дамаганьня, не варта.

Не дармо на усім абшары этнаграфічнай Беларусі нашы ворагі карыстаюцца у гэтым сэнсе тымі самымі доказамі:

«Цяпер ясна відаць, кажэ Савецкая Беларусь на Усходзе, што у варунках сучаснага капіталістычнага ладу збудаваць Мужыцкую Беларускую Рэспубліку, — сіламі аднаго селянства на 60% няпісьменнага, 90% нацыянальна несьвядомага, — ёсьць заданьне іллюзорнае, вельмі далёкае ад зьдзейсьненьня». (Сав. Бел. 31. XI. 25. № 296 (1595).

Тое самае гавораць і паны — на Захадзе. Вывад па іхняму адзін: селянін няпісьменны і нацыянальна несьвядомы мусіць падпарадкавацца альбо, як «кулак» — камуністам і іх партыі, альбо, як «несьвядомае быдла» — панам, якія ужо і давядуць селяніна да маткі праўды.

Аднак, бяз дапамогі тых і другіх, Беларускі Народ сваей **селянскай массай вызнаў сябе** сувэрэнным гаспадаром Беларусі і актам 25 сакавіка 1918 г. замацаваў **сваю дзяржаву.** Не адважываецца і Савецкая Беларусь супярэчыць праўна-юрыдычнаму акту гэнага дню, але прызнаецца шчыра, што пакуль цэніць не права, а сілу і таму прымушана сьвяткаваць Незалежнасьць 1 студзеня 1919 г. — камуністычную.

Розум і павага, з якой Беларускі Народ ставіўся да сваей дзержавы, як у пройшласьці — Беларуска-Літоўскага, так і цяпер — Беларускай Народнай Рэспубліківі, як творчай волі усяго Беларускага Народу, дэмократычнага па істоце і цьвёрдага у сваім «я», гаворыць за правідловасьць яго шляху.

Гэтага не адкідаюць і бэзстаронные даследчыкі беларускага руху з варожага стану:

«Усюды сярод беларускай люднасьці можна бэз труднасьці сьцьцвердзіць моцны стан самоўсьведомленьня, асабліва сацыяльна-клясовага, рэлігійнага, а таксама і нацыянальнага і, хоць праўда, болей у значэньні нэгатыўным — неналежнасьці да даных нацыянальнасьцяў, ніж у пазытыўнам — належнасьці да аднэй з іх». (Сроковскі. Справа народовосьцёва на крэсах всходніх, Краков 1924 г. бал. 7).

Мы верым, што традыцыйна узгадованы на праве і справядлівасьці Беларускі Народ ніколі не падпарадкуецца сіле дыктатуры, і як актыўна, так і пасыўна, што дасьледчыкі называюць нэгатыўным самаўсьведамленьнем у варунках трохсот-летняга занепаду пад гвалтам польскай і расейскай улады, — будзе змагацца за сваё права на поўнае зьдзейсьненьне народапраўства.

Мы не карыстаемся дэмагогіей і не заклікаем да таго, чаго не можэм даць. Наш шлях — шлях праўды. На абман народу і за кліч яго да усясьветнага шчасьця у той час, як ён галодны і халодны, абрабованы чужынцамі, абліваецца крывёй і потам у змаганьні за сваё права, — мы не пойдзем.

Трэба упарадкаваць сваё жыцьцё, трэба Беларускі Народ зрабіць гаспадаром на сваей зямлі у першую чаргу, а потым ужо памагаць і другім народам у мэтах агульна-чалавеччага шчасьця.

Прэзыдіум Рады Беларускай Народнай Рэспублікі стаіць на варце гэных інтарэсаў заграніцай, так як даручыла яму Рада Рэспублікі 13 сьнежня 1919 г. — Голас Усебеларускага Зьезду.

Духоўная, як і рэальная сувязь паміж Прэзыдіумам Рады і Беларускім Народам, не глядзячы на варожые акупацыі, не парвана. Гэта мы бачым што дня з той барадзьбы, якую вядзе Беларускі Народ на тэрыторыі Савецкай Беларусі — на Усходзе і пад Польшчай — на Захадзе.

Здраднікі і перэкідчыкі, то у адзін бок, то ў другі —самі па сабе атрымалі засуд Беларускага Народу.

Далейшая праца, як наша заграніцай, так і усяго Беларускага Народу на Бацькаўшчыне павінна скінуць панаваньне чужынцоў і даць мейсца Беларускаму Народу на усей Этнаграфічнай Беларусі, дзе ён становіць адменную большасьць.

Сьмела наперад за нацыянальную і сацыяльную роўнасьць.

Ніхай жыве Беларускі Народ.

Не пазволім панам і камуністам фальшаваць волю Беларускага Народу.

Супроць сілы — мы ставім ідэю, супроць гвалту — пратэст.

*Беларускай Народнай Рэспублікі*
*Старшыня Рады*
*П. Крэчэўскі*

# Праваслаўная царква ў БССР

«За 1956—1957 гг. было распаўсюджана ў Беларусі «Малітваслоўаў» 8873 экзэмпляры, «Біблій» на рускай мове — 156 экзэмпляраў, „Новага запавету" — 286 экзэмпляраў. Епархіяльнае кіраўніцтва лічыць, што такой колькасьці рэлігійнай літаратуры для патрэб веруючых вельмі недастаткова. «Атрыманых епархіяй для продажу «Малітваслоўаў», «Біблій», і «Новага запавету» вельмі мала, — пісаў архіяпіскап Піцірым у сваёй справаздачы патрыярху Аляксею, — а патрэба ў друкаваным слове ў епархіі велізарная».

«Паколькі рэлігійная літаратура распаўсюджваецца сярод веруючых у абмежаванай колькасьці, то царкоўнікі імкнуцца данесьці да веруючых рэлігійную ідэалёгію ў асноўным шляхам пропаведзей у храмах. Царква ў цяперашні час мае вопытных прапаведнікаў, сярод якіх пераважае моладзь, якая скончыла духоўныя сэмінарыі і акадэміі. Духавенства не абмяжоўвае свае пропаведзі тэмамі «сьвяшчэннага пісаньня», а закранае пытаньні маралі, сям'і, выхаваньня дзяцей і г. д. Такое шырокае кола тэм разьлічана на тое, каб выклікаць у веруючых цікавасьць да царквы, да яе вучэньня.

«Ад кожнага сьвяшчэньніка кіраўніцтва праваслаўнай царквы патрабуе старанна рыхтавацца да пропаведзей, каб зрабіць іх зразумелымі і пераканаўчымі для веруючых. Так напрыклад, пастаянную патрабавальнасьць паляпшаць чытаньнем прапаведзей і старанна да іх рыхтавацца праяўляў да падначаленых сьвяшчэньнікаў Смаргонскі благачынны Роўда. Маладога сьвяшчэньніка Ф. Бажэлку ён ня раз адчытваў у прысутнасьці іншых служыцеляў культу за дрэнную падрыхтоўку да пропаведзі». (Спасылка на «Архіў СМ БССР, 1959 воп. 15. л. 177.)

Г. К. Мярэлова, Аб ідэалагічным прыстасавальніцтве праваслаўя ў Беларусі на сучасным этапе.

Весці Акадэміі навук БССР, Серыя грамадскіх навук. Нр. 4, 1965 г.

# Архияпіскап Даніла

*(Нэкралёг)*

27. VIII. 1965 памёр у в. Аляксандроўка Адэскае епархіі Арх. Даніла (Юзьвюк), беларус, які нарадз. 2. Х. 1880 і скончыў у Жыровіцах духоўную праваслаўную сэмінарыю. У 1942 г. быў пасьвячаны на япіскапа для Літвы, а ў 1946 назначаны на становішча Пінскага і Берасьцейскага япіскапа. Там прабыў 10 гадоў і ў 1956 страціў зрок: нейкі час прабыў у манастыры на спачынку ў Адэсе і там падлячыўся. Пасьля перанесены ў гор. Ізмаіл мог яшчэ працаваць у Царкве. — Ён быў асцэт, посьнік, слаўны прапаведнік і вельмі чуткі на людзкія патрэбы.

Гэтыя інфармацыі ўзяты з Журналу Маскоўскай Патрыярхіі № 11, 1965. Аднак там не пададзена, што ў 1950 г. Яп. Даніла Юзьвюк быў арыштаваны. Апрача таго нам ведама, што ў 1950 Берасьцейская епархія пуставала, а ў 1952 пуставала і Пінская епархія.

З усяго нам ясна: Яп. Даніла дастаў — паводле тадышняй «нормы» ў Сав. Саюзе — найменш 10 гадоў! І калі. пасьля сьмерці Сталіна, пачалі звальняць поўных інвалідаў з лягераў, дык у 1956 прыйшла калейка і на беднага Яп. Данілу. Кажа Маск. Парт., што Яп. Даніла ў 1956 асьлеп . . . Зь іхнага нэкралёгу выглядае, што ў Беларусі асьлеп, на сваім становішчы. — Аднак нам ведама, што з лягераў назад у старое месца не вярталі. Дык пэўна, што і Яп. Юзьвюк асьлеп у лягеры і стуль быў павернены ў Украіну, бо Беларусь яму была забаронена. — Такім спосабам жыцьцяпіс Яп. Юзьвюка ня быў такім, якім падае яго Маск. Патрыярхія, а жыцьцё духавенства, асабліва на Беларусі, не магло быць такім пагодным. Можна быць пэўным, што ні адзін япіскап не прайшоў бяспечна праз пэрыяд сваей царкоўнай службы, каб не стаць мучанікам.

(Увага рэдактара: Пазволяць мне Чытачы тут успомніць з маіх дзіцячых часоў праваслаўнага сьвятара Ўладзімера Юзьвюка, які ўканцы таго веку пабудаваў у маім м. Гальшанах вельмі прыгожую царкву. Мне гаварылі, што гэта быў старшы брат яп. Данілы. — Я тады быў у пачаткавай школе і помню а. Ул. Юзьвюка як вельмі энэргічнага сьвятара, якога альшанцы праваслаўныя бязьмерна любілі, а каталікі паважалі. Асабліва мне ўразіўся ў памяць пажар у Гальшанах, як а. Юзьвюк насіўся маланкай між сабраным народам і арганізаваў абарону суседніх ад агню дамоў).

*а. Я. Г.*

Лёндан

### ПАСЬВЯЧАНЬНЕ У САН АРХІМАНДРЫТА АЙЦА ЛЬВА ГАРОШКІ

Дня 20 сьнежня 1965 г. ў капліцы Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лёндане адбылося пасьвячаньне ў сан Архімандрыта Дастойнага Айца Льва Гарошкі. Даканаў Біскуп Ч. Сіповіч, Апостальскі Візытатар Беларусаў і Генэрал Закону Айцоў Марыянаў.

Дзень перад гэтым, калі ў школе Сьв. Кірылы Тураўскага ў прысутнасьці школьнікаў і шматлікіх Беларусаў Бп. Ч. Сіповіч падаў да ведама прысутных аб волі Апостальскага Пасаду і зложыў шчырыя пажаданьні нова-назначанаму Архімандрыту, вучні школы прасьпявалі «Наш Архімандрыт няхай жыве!»

Дня 21 сьнежня Айцец Архімандрыт выехаў у Парыж, дзе ў часе Калядніх Сьвятаў служыў сьв. Літургію для тамашняй калёніі Беларусаў і адведваў суродзічаў.

Назначэньне Айца Льва Гарошкі Архімандрытам ёсьць яшчэ адным доказам прыхільнасьці Апостальскага Пасаду да Беларусаў.

### УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

У нядзелю 28-га лістапада стараньнямі Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ адбылося ў Лёндане сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня. Было прысутных шмат беларусаў і ангельскіх прыяцеляў. На ўвагу заслугоўваюць перадусім вельмі цікавыя даклады. Айцец Леў Гарошка у сваім дакладзе даў дакладны нарыс прабегу паўстаньня. Было відавочна, што прамоўца папрацаваў вельмі шмат і выкарыстаў усе даступныя крыніцы. У выніку гэтага паўстала нешта большае, чым звычайны даклад, але хутчэй аўтарытэтная гісторыя Слуцкага Паўстаньня. Спадарыня Вера Рыч у ангельскай мове зрабіла агляд вестак аб Слуцкім паўстаньні ў тагачаснай ангельскай прэсе. Было-б вельмі пажаданым, каб абодва даклады былі надрукаваныя, каб шырэйшыя колы беларускага грамадзтва маглі пазнаёміцца з імі.

У мастацкай частцы сьвяткаваньня былі дэклямацыі новых перакладаў беларускіх вершаў на ангельскую мову, зробленых Спадарыняй Рыч.

Сьвяткаваньне закончылася скромным пачастункам.

### ЯЛІНКА Ў ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛА

Традыцыйная ялінка вучняў Школы сьв. Кірыла адбылася ў нядзелю 19-га сьнежня. Ня гледзячы на тое, што яна адбывалася гэтым разам у новай вялікай школьнай залі, аднак свабоднага месца было вельмі мала з прычыны шматлікіх госьцяў. Асабліва дарагім і неспадзяваным госьцям быў Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч, які прыляцеў з Рыму ў Лёндан гадзіну перад пачаткам ялінкі.

Праграма была багатая. Пачалася яна батлейкай. Бурныя воплескі былі доказам, што яна спаткалася з прызнаньнем з боку гледачоў. Маладыя акцёры ня толькі ігралі вельмі добра, але ўлажылі шмат высілку дзеля прыгатаваньня касьцюмаў і сцэнічных дэкарацыяў. Апрача гэтага яны павінны былі разьвязаць шмат тэхнічных пытаньняў зьвязаных з пастаноўкай шматактовай п'есы, якая вымагае зьмены дэкарацыяў на малой сцэне. Трэба сказаць, што з усіх гэтых заданьняў яны вывязьваліся выдатна.

Хор калядоўшчыкаў з зьвяздою пад кіраўніцтвам сп. Г. Піхуры засьпяваў шэсьць калядак у перамежку з дэклямацыямі вершаў, а школьная аркестра (кіраўнік Э. Уолш) зайграла некалькі калядніх напеваў, сярод якіх «Неба і зямля», «Саўка ды Грышка» і «Ціхая Ноч».

Наканец Дзед Мароз (вучань Марак Саўка), які прышоў, як сам сказаў, аж з Беларусі і па дарозе чуць не растаяў, раздаў дзецям падаркі: каму розгу, каму цукеркі, а каму мыла, каб памыў рукі... Ён пытаў кожнага, ці ўмее гаварыць па беларуску. Калі хто ня умеў, дык Дзед Мароз прыказваў яму навучыцца да наступнага году, бо інакш не дастане больш падаркаў...

Найлепшы падарак адак прынёс не Дзед Мароз, але Ўладыка Часлаў з Рыму. Ён скарыстаў з гэтай нагоды, каб паведаміць, што Сьвяты Айцец удастоіў а. Льва Гарошку годнасьці архімандрыта. Паколькі а. Гарошка быў тут прысутны, дык сьвяткаваньне закончылася радасным мнагалецьцем у чэсьць новага дастойніка.

### ЯЛІНКА Ў БЕЛАРУСКІМ ДОМЕ

У сыботу 8-га студзеня Лёнданскі Аддзел ЗБВБ ладзіў у Беларускім Доме Калядні вечар. Было прысутных шмат беларусаў з Лёндану і аколіцы, а таксама ангельскіх госьцяў. Спадар П. Навара, старшыня Аддзелу, прывітаў усіх прысутных і прачытаў каляднія прывітаньні ад а. Я. Абабуркі і ад Царкоўнага Камітэту БАПЦ. Пасьля прамаўляў а. А. Надсон, які перадаў усім прывітаньні ад Дастойнага Ўладыкі Часлава Сіповіча. Дзед Мароз раздаў падаркі дзесцям. Усе правялі вельмі прыемна час за прыгожа і смачна застаўленым сталом.

# *Зь беларускай прэсы:*

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: Кастрычнік № 131, 1965. Торонто, Канада.

Дае нямала вестак з розных краёў сьвету. Адну — з Сав. Беларусі — памяшчае: «ВАДАЗБОР З ЦАРКВЫ»:

У мястэчку Вялікая Бераставіца царква зачынена і «прытасавана на вадазбор» — цісьнявую вадаправодную вежу, дзеля прымітыўнага вадаправоду. (Увага «Б. Шл.»: Гэтак можа дачакацца лепшых часоў і вернецца...)

СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ: (Эвангельскі Часапіс) 1965, № 2 (81).

№ пасьвячаны *Гальяшу Ляўковічу (Леўчыку)* у 85-ыя ўгодкі ад дня нараджэньня. — Вялікая шкода, што такі часапіс выходзіць так рэдка і ў такім невялікім фармаце і аб'ёме!

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 21 (44), 15. XI. 1965. № 22 (45), 30. лістапада. Нью Ёрк.

Трэба прызнаць, што гэты раз навіны прыходзяць вельмі цікавыя і важныя. Аднак найцікавейшае, што гаворыцца аб апошнім *пленуме* і што выбраны новы «прэзыдэнт» і ўжо будзе «новы парадак» — наступіць «новая эра» — поўнае шчасьце.

Характэрна, што ў Амэрыцы ня крытыкуюць папярэдніх прэзыдэнтаў — ні жывых (Эйзенговэр, Труман), ні памёршых (Кенэдi); а затое цяперашняга Джонсона крытыкуюць з усіх бакоў — і праціўнікі і нэўтральныя — у амэрыканскіх газэтах, у радыё, у тэлевізіі. Таксама ў Англіі — Вільсана, у Францыі — Дэ Голя.

Пытаньне: хто у Саветах выбіраў — на месца Мікаяна — Падгорнага? Адным словам сьвет раптам даведаўся, што таго няма, а гэты ёсьць!

І ў іхняй «дэмакрацыі» можна крытыкаваць толькі адыйшоўшых ад улады. А крытыка цяперашніх — гэта шпіянаж і контр-рэвалюцыя: за гэта — вязьніца, або вар'яцкі дом. Калі хто знайдзецца хітрэйшы і сапхне Брэжнёва і Касыгіна, тады цэлы Саюз зможа іх крытыкаваць бяз ніякай кары, але якая каму з гэтага карысьць?

СЯЎБІТ — Вяліка-Літоўскі (Беларускі) двумесячнік, 1965 Лістапад-Сьнежань, № 47, Калядны нумар. — «Беларусы ў сьвятле праўды» — глыбокі і сардэчны артыкул-разважаньне; шкада толькі, што карэкта ня зроблена належна!

ВЕХІ, Сьнежань, 1965, № 15, год Х. У артыкуле «Беларусь-Хірасіма» праведзена параўнаньне: Хірасіма — гэта першая атамная бомба 1945 г.» Але мы, Беларусы, перажылі не адну «Хірасіму». Але найгорш тое, што тыя, якія далей мучаць наш народ сваей камунай, усё звальваюць то на японцаў, то на немцаў. Немцаў яшчэ цяпер судзяць — і справядліва. Але пытае аўтар «Ці мала „Хірасімаў" было для Беларусаў на Сібіры?»

ВЕХІ, Студзень 1966, № 16. Год XI. — У нумары вельмі цікавыя «Запіскі Хворага». Сапраўды, хто сам быў хворы, асабліва ў часох вайны, эвакуацыі, рэвалюцыі, хто няраз стаяў на самым беражку прорвы, той скажа, што гэта напісана крывёй і сьёзамі вельмі нешчаснага чалавека, а прытым нязьмерна цярплівага, шчырага і паблажлівага для другіх. Гэта ёсьць разам скарга на нядолю, на людзкую злосьць і разам скарга на Госпада Бога і да Бога, злучаная з пакорнай малітвай і разважаньнем. Знойдзецца тут нямала дэфэктаў моўных і літаратурных, але — кожны разумее, што хворы — зацяжной і хранічнай хваробай — інакш пісаць ня мог.

БАЦЬКАЎШЧЫНА: № 6 (633), Сьнежань, 1965: 1) Каляднае Пасланьне Праваслаўнае Царквы на Чужыне. 2) Каляднае Пасланьне Апост. Візытатара для Беларусаў-Каталікаў Чэслава Сіповіча: Разважаньне аб заканчэньні II-га Ватынскага Сабору ў Рыме.

БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ: № 23, Восень. 1965 г. Добра апрацаваны і вельмі цікавы нумар.

ВОЖЫК: № 21 (619), 1965. — АФАРЫЗМЫ: «Ад дзяржавы трэба было аддзяліць ня толькі царкву, але й д'ябла». (Увага Рэд. «Б. Шл.»: — Д'ябла ў Сав. Саюзе аддзяліць нельга, бо ён належыць да партыі!)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА: 9 студзеня 1966:

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ ШТО: ...народны артыст СССР Васіль Іванавіч Качалаў — беларус і сапраўднае яго прозьвішча — Шверубовіч. Нарадзіўся ён у Вільні ў сям'і ўніяцкага беларускага сьвяшчэніка...

...таленавіты беларускі пісьменьнік Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі) быў выдатным этнографам і здольным мастаком...

...буйнейшы географ сьвету Ян Дамінікавіч Чэрскі — беларус, нарадзіўся ў Верхнядзьвінскім раёне. Яго імя носіць хрыбет у горнай Якуціі...

...бацькі легендарнага героя Мікалая Шчорса жылі ў Стаўбцах, там і памёрлі...

...выдатны рускі палкаводзец Іосіф Уладзіміравіч Гурка (Рамейка-Гурка) таксама беларус, прымаў удзел у Крымскай і балгара-турэцкай войнах...

Сабрала *З. Каханоўская,* вучаніца маладэчанскай школы № 8.

# Зь лістоў у рэдакцыю

Паважаны Айцец Рэдактар!

Як ведама, па II-ой Сусьветнай вайне шмат беларусаў апынулася па-за межамі свае Бацькаўшчыны, у розных краінах вольнага сьвету. I шмат дзе існуюць беларускія арганізацыі культурна-асьветныя, палітычныя, а таксама цэрквы і парахвіі.

Бываюць аднак такія здарэньні, што самі беларусы ня ведаюць ня толькі такіх краінаў, а нат мясцоў, дзе ёсьць нашыя арганізацыі ці цэрквы — з тае простае прычыны, што жывуць воддаль ад сваіх суродзічаў.

Добра было-б, каб у «Божым Шляхам» было падана, у якіх краінах і ў якіх мясцох дзеюць нашыя арганізацыі, цэрквы, парахвіі і што другое роднае! Пры гэтым трэба было-б зьмяшчаць дакладны *адрас* такога беларускага асяродка. Праўдападобна ў рэдакцыі »Б. Шляхам» ня ўсе такія пункты ведамы, дзеля гэтага трэба зьвярнуцца да адпаведных арганізацыяў і паасобных чытачоў «Б. Шл.» з прапазыкаю падаць у рэдакцыю ўсё, што ім ведама пра родныя групоўкі ў іхніх краінах і месцах.

Пра беларускае жыцьцё ў Штатах Паўн. Амэрыкі і Канады прыблізна ведама з прэсы нашае і іншамоўнае; а што дзеецца ў другіх краінах, у прэсе здараюцца весткі вельмі скупыя. Узяць хацяб такую Аўстралію, скуль у «Б. Шл.» бываюць лісты аб тым, што відаць праз вакно, ці аб кенгуру . . . Гэта ўсё кожны беларус бачыў у зьвярынцах, або і на волі. Але ці там ёсьць беларускія парахвіі і дзе яны і якія там беларускія арганізацыі, дык аб гэтым няма нічога! А трэба спадзявацца, што там існуюць беларускія парахвіі: там-жа жыве галава Беларускае Аўтакефаліі архібіскуп Сяргей і ня можа быць, каб там ня было белар. згуртаваньняў. У Аўстраліі апынуліся такія асобы як доктар мэдыцыны Я. Малецкі, сп. Калодка, інжынеры Нарушэвіч і Шкутка, а такжа дзьве сястры Воўк-Левановіч і другія. Усе яны бралі актыўны ўдзел у нашым нацыянальна-адраджэнскім уздыме перад вайною пры Польшчы, дык немагчыма, каб цяпер там яны заснулі бяз просыпу!

Цікава яшчэ было-б ведаць, ці ёсьць ў Аўстраліі каталіцкі сьвятар усходняга абраду, беларус?

Пажадана, каб аб усім успомненым Сп. М. Н. з Аўстраліі апісаў належна: гэта было-б важней кенгуру і дзікі сабакі «дзінго», пра якіх ён пасьпеў напісаць, хоць яны самыя шкодныя . . .

*Я . . .*

*

РЭД.: ЛІСТ З-ЗА «КУРТЫНЫ»

З аказіі Каляднага Сьвята прашу прыняць мае найлепшыя жаданьні: шмат шчасьця і памыснасьці ў вашым жыцьці і працы.

Даўно ўжо ня было ад Вас лістоў, якія заўсёды прыносяць мне вялікую радасьць.

Колькі мне пазваляў час, я сьлядзіў прабег саборнае працы. Гэта сапраўды было эпохавае здарэньне: Сабор фактычна (8. XII. 1965) закончыўся. Усякія зьезды, ці канфэрэнцыі нашых часоў, нат і міжнародныя, нічым ня могуць раўнавацца з гэтым Саборам! Кожны новы саборны дакумант быў падарункам усяму хрысьціянству і выклікаў у людзей вялікую радасьць. Нядаўна я чытаў Дэклярацыю «Аб адносінах Царквы да рэлігіяў няхрысьціянскіх». Як відаць з гэтага дакуманту, Царква найменшае зернятка Праўды, дзе-бы яно ня было пасеяна, старанна зьбірае і захоўвае.

Яшчэ людзі не забыліся аб місіі супакою Паўла VI-га ў ААН, у Нью Ёрку. Мой адзін калега пісаў мне аб вялізарным уражаньні зробленым на Амэрыку, якое прычыніў Галава Каталіцкае Царквы. Мне часта здавалася, што ў будучыні мусіць не адзін чалавек будзе нам зайздросьціць, што мы жылі ў эпоху Яна XXIII-га.

Найбарджэй мяне цікавіць вестка аб адмене экскомунікі — анатэмы, кіненай наузаем Захадам і Усходам у 1054 г. і я перажыў у сэрцы вялікую радасьць. Я падумаў, што пакора і любоў Паўла VI-га пачынае прыносіць плады.

Праўда, ў працягу гэтых 900 гадоў няраз пачыналіся пробы прымірэньня Ўсходу-Захаду (Сабор Ліёнскі II-гі, унія ў Флёрэнцыі, унія ў Берасьці), аднак — з нагоды розных дапушчаных памылак дый недахвату добрае інтэнцыі — гэтыя намаганьні ня прынесьлі сапраўднае лучнасьці. Сяньня дасьпявае цалкам штосьці другое і трывальшае. Прэса пісала аб магчымым прыезьдзе Патр. Атэнагара ў Рым. Якое — Вы думаеце — было-б значэньне такога прыезду? Ці прадбачыцца рэвізыта самога Папы? Не магу зразумець, чаму так супраціўны грэцкі мітрапаліт Хрызастом? Ці для яго не мае значэньня Хрыстовая малітва аб адзінасьці Царквы ? . .

А я працую: стаў кіраўніком гародніцва. Старшая дачка студыюе, другая ўжо вучыцелькай і два сынкі вучацца.

Калі зможаце, прышліце нам фото Яна XXIII-га.

*Р. Д-скас*

*

МЭЛЬБУРН — АЎСТРАЛІЯ:

Перадусім дзякую за Ваш часапіс: прачытаў адным духам і аддаў Сп. С-ю, які заплаціў падпіску за яго. Матар'ял, як заўсёды, вартасны і актуальны.

Прамову Папы Паўла VI-га ў ААН у Нью Ёрку прачытаў цэлую: вельмі цікавая і разумная. Каб толькі ейныя сугестыі маглі зрэалізавацца,

ня было-б бяды на зямлі. А бяда найбольшая сяньня, што людзі ў бальшыні думаюць перадусім пра сябе. І пакуль усё йдзе добра, служыць здароўе, працуецца, зарабляецца, дык забываемся пра грамадзкасьць, пра справы вечныя, пра Бога. Але, як толькі загрыміць, а не дай Божа — ўдэрыць пярун, тады пачынаецца лямант — клічам людзей і Бога на помач... Бальшавікі ўжо колькі год «перарабляюць» народ — нажаль, набраў толькі новай палітуры.

Але... зірнуў у вакно. Пачынае выпагаджвацца. О, нават праглянула сонейка і адразу ўсё ажыло! Цікавая пагода ў гэтай Аўстраліі: у кастрычніку было цёпла — аж горача і так прыгожа, як бывае вясной. А ў лістападзе, апошнім месяцы вясны (як на Беларусі ў траўні), вярнулася зіма — з холадам, дажджамі, нават сьнегам! Недалёка Мэльбурну і ў горах навваліла сьнегу, што пачаўся новы сэзон на лыжах. Значыць, ня толькі непарадкі ў людзей, але і ў натуры!

Учора была ў нас бура і нарабіла шмат шкоды. Мае пацехі, цыпрысы, якія найвышэй выбуялі перад вэрандай, пачалі амаль класьціся на зямлю, толькі цудам не зламаліся. Мая і суседнія хаты, засланяючы перад ветрам, выратавалі дрэвы.

*М. Н.*

✳

РІО-дэ-ЖАНЭЙРО, БРАЗЫЛІЯ:

Вялізны і цудоўны горад Ріо! Толькі няведама, як вам апісаць, бо ў нас вясна вашай восеньню: усё гвалтоўна расьцець — проста лезець уверх! Хоць вакол мора, але ў горадзе не хапала вады. Але нарэшце цяперашні губэрнатар паканаў гэтую бяду: правялі здалёку і добрую вадзіцу, дый вельмі шмат. Таксама пачалі парадкаваць і абнаўляць край: будуюць тунэлі пад горамі, праводзяць новыя вуліцы — шырокія — ў чатыры стужкі; на засыпаных берагох мора зьяўляюцца садзікі, кветнікі, фантаны...

Таксама ўзносяцца новыя школьныя будынкі, уводзіцца абавязковае навучаньне, нават для самага беднага насельніцтва — з помачай дзяржавы. Мусіць радавацца такімі падзеямі Хрыстос, што паглядае з суседняй высокай гары (там стаіць вялізарная фігура Хрыста) і, здаецца, хоча багаславіць усё добрае, але ёсьць... і шмат благога. Аднак аб гэтым цяпер пісаць ня буду.

Мне вельмі прыемна паглядаць цёмнымі вечарамі на Хрыстовую гару (800 мэтраў), багата асьветленую. Так і думаецца, што Хрыстос гаворыць: «Вы — са Мной, а Я — з вамі».

Вітаю Суродзічаў з Новым Годам! Жадаю, каб Божанька памагаў, сьцярог і ратаваў у бедах.

Сонца пячэ бязьмерна гэтым нашым летам: я-ж ледзь не растапіўся як сала. Толькі шчасьлівы, што яго ў мяне няма — адна скура й косьці!

Так мне сумна, што я тут адзін: ня маю да каго загаманіць, апрача Ісуса Хрыста на гарэ Коронадо. Затое нікога не баюся. —

«О, мой Божа, веру Табе!» *Віктар Небядовіч*

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

УВАГА РЭДАКЦЫІ: Дзеля таго, што Паважаныя Чытачы зьвярталі нам увагу з просьбай не даваць аднатацыі аб прысланай падпісцы, паведамляем: Адмін. «Б. Шляхам» будзе кожнаразова паведамляць аб прысланай падпісцы з квітанцыяй, а ў «Паштовай Скрынцы» будзе даваць павесткі і адказы паводле спэцыяльнай патрэбы.

## СОН РЭДАКТАРА

(З праўдзівага здарэньня)

*Мне сьнілася — я паміраю...*
*Як доўга я канаў, ня знаю.*
*Заснуў я, доўг вялікі меўшы,*
*Зь вялізным горам (й недаеўшы). —*

*Памёр!..*
*Ледзь Чытачом было пад сілу*
*Мяне занесьці у магілу:*
*Адны — аж сонца ледзь-ледзь бачуць —*
*Так горка плачуць!*

*Другія аб сваім бізнэсе*
*Гамоняць — пры тым інтарэсе.*
*Сьмяюцца іншыя ў кулак —*
*Дый кажуць: «Добра яму так! —*

*«Дуфаў на дзіва,*
*«Што мы заплацім справядліва:*
*«Хоць нас зацягіваў у кнігу,*
*«Яму мы слалі толькі хв...*

*Я вочы раптам адчыняю —*
*На іх я грозна паглядаю. —*
*Як крыкну: «Добрыя вы вельмі,*
*«Вы — шэльмы!*
*«Мяне ў кадрылі*
*«На сьмерць змарылі. —*

*Яны-ж у страху*
*Мяне з труною — бразь! — з размаху:*
*Труна — у трэскі! —*
*(Ах, Чытачы! такі быў сон мой кепскі).*

*Падскочыў я — яшчэ ў тым сьне,*
*Шарахнуў локцям па сьцяне! —*
*І трэба-ж? З той нагоды*
*Зрабіў адразачку дзьве шкоды*
*Ў хвілiначку адну —*
*Руку скрывавіў і сьцяну!*

*

*Прачхнуўся — кроў цячэ — бядую,*
*Хто з Чытачоў рэдактара шкадуе?*

Я. Г.

---

### ПАПРАЎКА

У № 6 (93) 1965 г. здарылася прыкрая памылка, што фамілія Сьв. Пам. Язэпа КАСАКА напісана «Касяк», за што Сям'ю Памёршага шчыра перапрашаем!

*Рэдакцыя «Божым Шляхам»*

---

## ЗЬМЕСТ:



---

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.